# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

**ГАЛОЎНАЕ**

**Ў НУМАРЫ:**



**ЖНІВЕНЬ 1935 г. 16**

**Журнал ЦК КП(б)Б**

**Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда“**

# ЗМЕСТ



Менск, друкарня „Звязды". Здана ў набор 25-VIII—35 г. Падпісана да друку 31-VIII

Уп. Галоўлітбела №—29-21 Тыраж 980 экз. 2 друк. арк. У арк. 75.000 знак.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖНІВЕНЬ 1935 г. № 16 (40)
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б
Выходзіць 2 разы ў месяц.
Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63
*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*



Генеральны сакратар Выканкома Комінтэрна тав. Г. ДЗІМІТРАЎ.





# Важнейшая палітычная задача друку

Наша партыя праводзіць зараз важнейшую палітычную работу—праверку партыйных дакументаў. Перад большэвіцкім друкам у сувязі з гэтым стаяць вельмі адказныя задачы. І задачы гэтыя выцякаюць перш за ўсё з асноўнага прынцыпу большэвіцкага друку—яго партыйнасці, з арганізацыйнай ролі друку ў будаўніцтве нашай партыі.

Без глыбокага разумення сутнасці партыйнасці друку, яго ролі ў партыйным будаўніцтве немагчыма ажыццяўленне задач, якія стаяць цяпер перад усім большэвіцкім друкам, перад кожнай партыйнай газетай.

Яшчэ ў 1901 г. у артыкуле «З чаго пачаць» **В. І. Ленін** пісаў: «Па нашай думцы, зыходным пунктам дзейнасці, першым практычным крокам к стварэнню жадаемай арганізацыі, нарэшце, асноўнай ніццю, трымаючыся за якую мы маглі-б няўхільна развіваць, паглыбляць і расшыраць гэту арганізацыю,—павінна быць пастаноўка агульнарускай палітычнай газеты. Нам патрэбна перш за ўсё газета».

Ленін параўноўваў тады партыйную газету з «лясамі, якія будуюцца вакол узвадзімага будынка, намячаюць контуры пабудовы, аблягчаюць зносіны паміж асобнымі будаўнікамі, дапамагаюць ім размяркоўваць работу і аглядаць агульныя рэзультаты, дасягнутыя арганізаванай працай. Пры дапамозе газеты і ў сувязі з ёю сама сабой будзе складвацца пастаянная арганізацыя, занятая не толькі мясцовай, але і рэгулярнай агульнай работай, прывучаючая сваіх членаў уважліва сачыць за палітычнымі падзеямі, ацэньваць іх значэнне і іх уплыў на розныя слаі насельніцтва, выпрацоўваць мэтазгодныя спосабы ўздзеяння на гэтыя падзеі з боку рэвалюцыйнай партыі».

Гэтае ленінскае вызначэнне арганізацыйнай ролі друку адносіцца не толькі к перыяду арганізацыі партыі новага тыпу—партыі большэвікоў. Выступаючы супроць буржуазнага скажэння Інгулавым асноўных прынцыпаў большэвіцкага друку, тав. **Сталін** пісаў: «Ленін гаварыў тады аб газеце, як аб зброі будаўніцтва нашай партыі. Але няма падстаў сумнявацца ў тым, што сказанае Леніным цалкам прымяніма ў цяперашняй нашай абстаноўцы партыйнага і дзяржаўнага будаўніцтва».

Ворагі партыі і працоўных добра разумеюць сілу большэвіцкага друку, якая заключаецца перш за ўсё ў яго ваяўнічай партыйнасці. Вось чаму разам з меншавікамі, адмаўляўшымі ленінскі прынцып партыйнасці друку, разам з Мартавым, які пісаў, што абавязак друку толькі літаратурна абслугоўваць партыю, а не ўмешвацца ў практычныя, арганізацыйныя і палітычныя задачы партыйнага будаўніцтва, контррэвалюцыянер Троцкі ўсімі сіламі імкнуўся адарваць друк ад партыі, звесці на нішто яго арганізацыйную ролю, звесці ролю друку толькі да пасіўнай інфармацыі.

У барацьбе з усялякімі буржуазнымі скажэннямі прынцыпаў большэвіцкага друку **Ленін** і **Сталін** заўсёды падкрэслівалі асноўны прынцып—партыйнасць друку, ролю газеты, як партыйнага палітычнага органа. Рэзка крытыкуючы буржуазныя тэорыі беспартыйнасці друку, незалежнасці літаратуры і літаратараў ад партыі, Ленін рашуча падкрэсліваў падначаленасць і падкантрольнасць друку партыйным арганізацыям.

Літаратурная справа не можа быць індывідуальнай справай, незалежнай ад агульнай пролетарскай справы. Літаратурная справа павінна быць часткай агульнапролетарскай справы, састаўной часткай усёй партыйнай работы—вось як вызначае Ленін сутнасць прынцыпу партыйнасці друку.

«Газеты павінны стаць органамі розных партыйных арганізацый. Літаратары павінны ўвайсці непраменна ў партыйныя арганізацыі. Выдавецтвы і склады, магазіны і чытальні, бібліятэкі і розныя гандлі кнігамі—усё гэта павінна стаць партыйным, падсправаздачным. За ўсёй гэтай работай павінен сачыць арганізаваны соцыялістычны пролетарыят, усю яе кантраляваць, ва ўсю тэту

работу, без адзінага выключэння, упосіць жывы струмень жывой пролетарскай справы, адбіраючы такім чынам усякую глебу ў старыннага, поўаблюмаўскага, поўгандлярскага расійскага прынцыпу; пісьменнік пацісвае, чытач пачытвае».

Газета—палітычная зброя партыі. Газета—партыйны палітычны орган, падначалены партыйнай арганізацыі, кіруемы і кантралюемы ёю. Ленінскі прынцыпы партыйнасці друку вызначае задачы нашых газет.

Нястомная глыбокая прапаганда вучэння Маркса—Энгельса—Леніна — Сталіна, прапаганда генеральнай лініі нашай партыі;

— барацьба супроць малейшага скажэння ленінізма, скажэння генеральнай лініі партыі, барацьба на два фронты супроць правых і «левых» апартуністаў, за ідэйную чыстату і адзінства партыйных радоў;

— уменне даводзіць дырэктывы партыі да свядомасці самых шырокіх мас працоўных і арганізоўваць гэтыя масы на выкананне дырэктыў партыі;

— рэволюцыйная пільнасць, уменне распазнаць і выкрыць ворага, пад якой-бы маскай ён ні хаваўся—вось што складае асноўныя адзнакі партыйнасці газеты.

Сур'ёзная ўвага да пытанняў партыйнага будаўніцтва, пытанняў арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы партыі,—вось што асаблі ва патрабуецца зараз ад партыйнай газеты. Грубейшай памылкай многіх раённых газет з'яўляецца імена тое, што яны не аддаюць гэтай увагі пытанням партыйнай работы.

Многія раённыя газеты БССР, захапіўшыся выключна асвятленнем ходу гаспадарча-палітычных кампаній, забылі, што газета з'яўляецца органам раённага камітэта партыі, адсунулі асвятленне ўнутрыпартыйнай работы на задні план. Гэтыя газеты не разумеюць, што паспяховае выкананне гаспадарча-палітычных задач немагчыма без бальшэвіцкай работы ўсёй партыйнай арганізацыі, кожнага яе звяна, кожнага комуніста ў паасобку. Імена з гэтага неразумення ролі газеты, як органа партыйнага камітэта, і выцякае тое, што **бягомльская** раённая газета **«Калгасны змагар»** на працягу паўтара месяца не змясціла ні аднаго матэрыялу па пытаннях партыйнай работы, што недапушчальна мала асвятляюць партыйную работу **брагінская, тураўская, заслаўская** і многія іншыя раённыя газеты. Рэдактары гэтых газет не разумеюць, што ад бесстаронняй рэгістрацыі фактаў, накшталт таго, што ў такім і такім калгасе ўбіраюць дрэнна, а ў такім добра, ад істэрычных крыкаў аб прарыве і адставанні і адміністратарскіх загадаў на старонках газет: «спыніць сабатаж», «ліквідаваць прарыў», «прыцягнуць да адказнасці» і т. д. і т. п. справы не палепшацца, што не ў гэтым заключаюцца задачы газеты. Рэдактары гэтых газет не разумеюць таго, што калі дрэнна ідзе работа ў тым ці іншым калгасе, сельсовеце, гэта значыць, што не забяспечан належны партыйны ўплыў у гэтым калгасе, значыць, комуністы, якія адказваюць за гэты ўчастак работы, не здолелі палітычна ўздзейнічаць на масы калгаснікаў і арганізаваць іх на выкананне чарговых задач, прагледзелі работу класава-варожых элементаў і т. д. Значыць, задачы газеты заключаюцца ў тым, каб дапамагчы партыйнай арганізацыі своечасова нашчупаць слабае звяно ў сваёй рабоце, ускрыць прычыны гэтай слабасці, дапамагчы правільна наладзіць работу. А гэта ў першую чаргу азначае сістэматычнае асвятленне работы асобных звенняў партыйнай арганізацыі, асобных комуністаў.

Асвятленне ходу гаспадарча-палітычных кампаній павінна быць цесна звязана з асвятленнем на старонках газеты партыйнага жыцця, з шырокім разгортваннем большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, такой смелай і рашучай да канца самакрытыкі, да якой заклікаў нас т. **Сталін** у сваёй прамове на прыёме работнікаў чыгуначнага транспарта ў Крэмлі. «Без крытыкі рухацца ўперад нельга. Гэта ісціна—чыста і празрыста, як чыста і празрыста крынічная вада» — сказаў т. **Сталін.** «Ускрываць язвы нашай работы, не баяцца крытыкі, а пайсці ёй насустрач, не замазваць недахопы, прыслухоўвацца к голасу ўсіх работнікаў, не толькі вучыць работнікаў, але і вучыцца ў іх».

Такая разгорнутая крытыка на старонках раённай газеты ўсіх недахопаў

партыйнай работы ў раёне, работы асобных звенняў партыйнай арганізацыі асаблівае значэнне мае зараз, калі партыя праводзіць такую важнейшую работу, як праверка партыйных дакументаў.

Трэба прама сказаць, што вялікая частка нашых газет недапушчальна слаба і на вельмі нізкім узроўні асвятляе ход праверкі партыйных дакументаў. Возьмем такую газету, як **«Комунар Магілеўшчыны»**. У раёне груба скажалі дырэктывы ЦК КП(б)Б аб праверцы партыйных дакументаў, звялі гэту работу да чыста тэхнічнай справы, даверылі важнейшую партыйную работу людзям, якія не маюць права займацца гэтай справай. ЦК КП(б)Б адмяніў праведзеную праверку партдакументаў па Магілеўскай арганізацыі, прапанаваў правесці паўторную праверку. А магілеўская газета да пастановы ЦК, нібы вады ў рот набраўшы, ні словам не абмовілася аб ходзе праверкі ў Магілеве. Лінія газеты ў гэтым пытанні была антыпартыйнай. І гэта невыпадкова, бо кіраўніцтва газеты ўзначальвалася чужымі партыі людзьмі.

Або возьмем чавускую газету **«Калгасны сцяг»** (рэдактар т. **Салодкін**). Калі-б комуністы Чавускага раёна карысталіся толькі сваёй газетай, яны-б і не ведалі, што партыя праводзіць зараз такую праверку, бо газета не толькі ні слова не напісала аб ходзе праверкі партдакументаў у раёне, не толькі не дала ні аднаго свайго артыкула аб значэнні і задачах праверкі, але не перадрукавала нават ні аднаго артыкула з цэнтральнага друку. Ні аднаго слова аб ходзе праверкі партыйных дакументаў у раёне не дала і журавіцкая газета **«Сталінец»** (рэдактар т. **Курпяк**). А ЦК КП(б)Б адмяніў-жа праведзеную праверку па чавускай і журавіцкай арганізацыях, вынес суровае партыйнае спагнанне сакратарам гэтых арганізацый. Значыць, і чавуская і журавіцкая газеты не бачылі таго, што ў раёнах скажаюцца важнейшыя дырэктывы партыі, або бачылі і маўчалі, баяліся ўскрываць буйнейшыя памылкі на гэтым адказнейшым участку партыйнай работы.

Гэтыя грубейшыя памылкі чавускай і журавіцкай газет тлумачацца выключна палітычнай блізарукасцю іх рэдактароў, неразуменнем ролі і задачы газеты, як палітычнага партыйнага органа.

Але большасць і тых газет, якія часад-часу асвятляюць ход праверкі партыйных дакументаў, абмяжоўваюцца тым, што са спазненнем выкрываюць прахадзімцаў і жулікаў пасля таго, як яны ўжо выкрыты пры праверцы. А задачы-ж газеты заключаюцца іменна ў тым, каб дапамагчы партыйнай арганізацыі разгарнуць большэвіцкую крытыку і самакрытыку, дапамагчы выкрыць прахадзімцаў і жулікаў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю, прыкрываючыхся партбілетам для сваёй варожай контррэволюцыйнай работы. Вось гэтага свайго абавязку значная частка нашых газет і не выконвае.

Але не толькі ў гэтым заключаецца роля газеты ў праверцы партыйных дакументаў.

«Сутнасць праверкі партыйных дакументаў, якая праводзіцца зараз ва ўсіх арганізацыях, заключаецца ў тым, каб узняць адзін з важнейшых участкаў арганізацыйнай работы партыі да ўзроўню палітычнай лініі, прывесці гэты ўчастак у адпаведнасць з той аграмаднай роляй, якую выконвае большэвіцкая партыя...

Праверка партыйнай гаспадаркі—гэта не толькі барацьба з арганізацыйнай распушчанасцю, з агіднасцямі ва ўчоце і хаванні партыйных білетаў. Адна з важнейшых задач гэтай праверкі—узняць агульны ўзровень партыйнай работы, выкарыстаць падрабязнае знаёмства з кожным членам арганізацыі, каб лепш вывучыць людзей, вылучыць новыя кадры». (**«ПРАВДА»**).

Задача газеты ў сувязі з праверкай партыйных дакументаў заключаецца, значыць, у тым, каб шырока асвятляць на сваіх старонках усе галіны партыйнай работы, дапамагчы партыйнай арганізацыі ўзняць агульны ўзровень усёй партыйнай работы. Не адрываць праверку партыйных дакументаў ад арганізацыйна-партыйнай, палітыка-выхаваўчай работы арганізацыі, масава-выхаваўчай работы сярод беспартыйных працоўных мас, ад кіраўніцтва гаспадарча-палітычнымі кампаніямі, а цесна спалучаць гэту работу—у такім разрэзе

павінна асвятляцца партыйнае жыццё на старонках газеты.

Задачы, якія стаяць зараз перад партыйным друкам, патрабуюць максімальнага ўзмацнення ўвагі і дапамогі газетам з боку партыйных камітэтаў.

Газета—орган партыйнага камітэта, падначалены партыйнаму камітэту, кіруемы і кантралюемы ім. За работу газеты ў першую чаргу адказвае партыйны камітэт, органам якога газета з'яўляецца. Гэта часта забываюць асобныя райкомы партыі. Замест умацавання газеты кадрамі, што з'яўляецца абавязкам райкома, такія райкомы, як **Грэскі, Калаткевіцкі** і інш., трымаюць рэдактароў у якасці штатных упаўнаважаных па сяўбе, уборцы і т. д. Такія райкомы, як **Капаткевіцкі, Журавіцкі,** не забяспечылі нават адпаведнага памяшкання для рэдакцый сваіх газет. Што ўжо гаварыць пра клопаты аб задаваленні матэрыяльна-бытавых і культурных патрэб работнікаў рэдакцыі. Гэтых клопатаў няма ў многіх раёнах.

Райкомы партыі абавязаны правяраць і кантраляваць работу сваіх газет, своечасова ўскрываць і выпраўляць іх памылкі. Але адначасова з гэтым райкомы абавязаны і стварыць неабходныя ўмовы для газеты і яе работнікаў. У гэтым заключаецца сутнасць кіраўніцтва райкома сваёй газетай.

Толькі пры ўмове такога штодзённага кіраўніцтва і дапамогі з боку партыйных камітэтаў газеты змогуць справіцца з тымі задачамі, якія стаяць перад імі, як перад партыйнымі палітычнымі органамі.





**САКРАТАРЫЯТ ВЫКАНКОМА КОМІНТЭРНА** (злева направа): тт. Эрколі, Мануільскі, Готвальд, Дзімітраў (генеральны сакратар), Куусінен, Пік, Марці.

## Агляды друку

# Аб дружных воплесках, кветках і рэдакцыйных падхалімах

Поспехі Аршаншчыны ў правядзенні раду важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній відавочны. Аршанскі раён першым у БССР поўнасцю выканаў гадавы план хлебапаставак дзяржаве. За гэта пастановай рэспубліканскай камісіі па соцспаборніцтву з Заходне-Сібірскім краем і Заходняй вобласцю Аршаншчыне перадан чырвоны сцяг ЦК КП(б)Б і СНК БССР.

Зусім зразумела, што без бальшэвіцкай работы партыйнай арганізацыі, без правільнага апаратыўнага кіраўніцтва райкома партыі і, у прыватнасці, сакратара РК т. **Соскіна** немагчымы былі-б дасягнутыя раёнам поспехі.

Але ці дае гэта права газеце **«Ленінскі прызыў»** — органу Аршанскага РК КП(б)Б — заняць у адносінах да сакратара РК лінію самага агіднага, бессаромнага падхалімажу? А што газета такую лінію заняла, сведчыць змешчаная ў нумары «Ленінскага прызыву» ад 5 жніўня карэспандэнцыя **Я. Рыскіна** «На гутарцы ў т. Соскіна».

У раённы камітэт партыі прышлі 34 комсамолкі, каб пагаварыць з членамі бюро, з сакратаром РК аб паляпшэнні работы сярод жаночай моладзі. І вось як «Ленінскі прызыў» падае гэту «надзвычайную» падзею.

Пачнем з таго, што рэдакцыі аршанскай газеты здавалася, што нават твары ў дзяўчат у гэты дзень былі незвычайныя.

> «На іх тварах незвычайныя ўхмылкі. Кожная выглядала як ніколі весела»,

што дзяўчаты

> «з асаблівым пачуццём прыемнасці ўсе былі гатовы ўступіць у цікавую і доўгачаканую гутарку».

Але найвышэйшага пункту захаплення рэдакцыі дасягае тады, калі яна перадае з'яўленне ў зале сакратара-РК.

> «Сакратара райкома тав. Соскіна, членаў бюро, нам. старш. РВК т. Вараб'ёва, сакратара раённага камітэта комсамола тав. Шапіра дзяўчаты сустрэлі дружнымі воплескамі» —

перадае газета ўсе дэталі сустрэчы.

> «Тав. Супрычова ад імя дзесяці ўдарніц-комсамолак ільночасальнай фабрыкі паднесла сакратару райкома т. Соскіну выдатны букет жывых кветак.

Дружныя воплескі, букет, ды яшчэ выдатны, з жывых кветак, незвычайныя ўсмешкі — ну як тут не прыйсці ў захапленне! Няўжо нагадвае ўсё гэта скромную сустрэчу комсамолак з сакратаром райкома?

У такіх урачыстых абставінах, зусім зразумела, і слова сакратара РК рэдакцыя ўспрыняла, як урачыстую прамову.

> «Палутарагадзіннай, насычанай цікавымі фактамі прамовай выступіў сустрэчаны дружнымі воплескамі (зноў гэтыя воплескі. «Б. Д.») тав. Соскін...
>
> ...Уважліва слухалі комсамолкі цікавую прамову т Соскіна».

Агідны, бессаромны падхалімаж—ні чым іншым нельга назваць гэта выступленне газеты, газеты, якая павінна выхоўваць масы працоўных у духу бальшэвіцкай скромнасці.

Мы ўпэўнены, што Аршанскі РК рашуча асудзіць гэту лінію сваёй газеты, укажа рэдакцыі, што газетны падхалімаж не мае нічога агульнага з прынцыпамі работы бальшэвіцкага друку.

# Газета замкнулася ў рамках уборачнай

1 ліпеня — 18 жніўня. 19 нумароў газеты **«Калгасны змагар»** (Бягомльскі раён) вышла за гэтыя паўтара месяца. Перагортваем нумар за нумарам. Мы імкнемся па раённай газеце даведацца, чым жыве раён, партыйная, комсамольская арганізацыі, пазнаёміцца з культурна-гаспадарчым жыццём раёна, са знатнымі людзьмі соцыялістычнага будаўніцтва.

І так мы перачытваем нумар за нумарам, заметку за заметкай. Вось газета за 2 ліпеня. На першай паласе — 6 заметак аб ходзе праполкі і сенаўборкі. На другой — тры невялічкія заметкі аб жывёлагадоўлі, падвал «Прапагандысцкую работу — на вышэйшую ступень» і некалькі раскінутых інфармацый у аддзеле «За граніцай».

Вось нумар за 5 ліпеня (3 ліпеня рэдакцыя выпусціла спецыяльны бюлетэнь па здабычы жывіцы). Тры паласы займаюць пастановы чэрвеньскага пленума ЦК КП(б)Б, на чацвертай — падвал аб міжнародным дні каапераціі, некалькі заметак аб сенаўборцы і тры невялічкія пісьмы ў рэдакцыю з калгасаў раёна.

6, 11, 14, 18 ліпеня — паласы газеты заняты выключна матэрыяламі сенаўборкі і падрыхтоўкі да ўборкі зерневых.

Ні аднаго пытання з другіх галін гаспадарчага, культурнага, палітычнага жыцця раёна газета ў 7 нумарах, што вышлі за 18 дзён ліпеня, не ўзняла.

Так прадаўжаецца і ў другой палове ліпеня і ў жніўні. Старонкі газеты заняты матэрыяламі аб ходзе ўборкі, час-ад-часу з'яўляюцца некалькі заметак аб жывёлагадоўлі, ці фінплане (прычым трэба сказаць, што і гэтыя матэрыялы далёка невысокаякасныя, газета фіксуе становішча ў тым ці іншым калгасе, не ўзнімае сур'ёзных прынцыповых пытанняў). Гэтым і абмяжоўваецца тэматыка газеты.

У 19 нумарах газеты мы знаходзім толькі тры спробы рэдакцыі выйсці за рамкі ўборкі, жывёлагадоўлі і фінплана. Гэта — карэспандэнцыя аб рабоце раённага Дома соцыялістычнай культуры (нумар ад 20 ліпеня), карэспандэнцыя аб раённым універмагу (27 ліпеня) і артыкул сакратара комсамольскага камітэта райвыканкома «Пачынаем працаваць па-новаму».

А тэматыка пісем, якія паступаюць у рэдакцыю, значна шырэй за тэматыку газеты. Селькоры пішуць у газету і аб рабоце амбулаторыі, паштовых агенцтваў, сталовых, радыё і т. д.

Але рэдакцыя бягомльскай газеты не ўмее, ці не жадае шырока скарыстоўваць матэрыялы селькораў для расшырэння тэматыкі газеты, не ўмее ўзнімаць па сігналах селькораў рад сур'ёзных, прынцыповых пытанняў. Яна выпустошвае жывы змест з селькораўскіх карэспандэнцый, робіць з іх 5—8-радковыя заметкі, якія ўціскае ў так званы «аддзел» **«З пісем у рэдакцыю».**

Бягомльская газета, замкнуўшыся ў рамкі гаспадарчых кампаній, праходзіць міма шматграннага жыцця раёна. Падрыхтоўка да новага навучальнага года, работа ўстаноў па ахове здароўя працоўных, прамыслова-кааперацыйных арцеляй, пытанні добрабыту мястэчка і раёна, множства бытавых пытанняў — усё тое, што цікавіць і хвалюе чытача, не цікавіць рэдакцыю бягомльскай газеты.

І самае галоўнае гэта тое, што **рэдакцыя «Калгаснага змагара» забыла, што газета з'яўляецца органам раённага камітэта партыі.** За паўтара месяца **ні аднаго слова пра партыйнае будаўніцтва** ў раёне — гэта сур'ёзная небяспека. Тым больш цяпер, калі партыя праводзіць важнейшую справу — праверку партыйных дакументаў. Абыйсці маўчаннем ход праверкі партыйных дакументаў у раённай партыйнай арганізацыі з'яўляецца грубейшай палітычнай памылкай газеты. І ў гэтым вінавата не толькі рэдакцыя газеты, але і бягомльскі райком партыі, які своечасова не ўказаў і не выправіў памылку сваёй газеты.

# „Гром победы раздавайся“

15 жніўня ў дубровенскай раённай газеце **«За социялістычнае будаўніцтва»** з'явіўся артыкул пад назвай: «Пяршынства павінна быць за намі». Калі паверыць рэдакцыі, то ў раёне

> **«усюды, куды ні глянь, кіпіць дружная работа па ўборцы багатага соцыялістычнага ураджаю... Штодня весткі з месц паступаюць аб новых перамогах... Церабленне льну цесна спалучана з абмалотам, рассцілам і здачаю валакна дзяржаве».**

Але ёсць усе падставы не верыць рэдакцыі дубровенскай газеты, не верыць таму, што, як відаць, у рэдактара «За соцыялістычнае будаўніцтва» тав. **Барашкава** правая рука не ведае, што робіць левая.

У тым-жа нумары, дзе надрукован артыкул «Пяршынства павінна быць за намі», чытаем рад матэрыялаў, якія малююць становішча ільноўборкі й апрацоўкі ў раёне зусім у іншым святле. У прыватнасці, надрукавана пастанова раённай камісіі па спаборніцтву, у якой тры сельсоветы занесены на чорную дошку за адставанне ва ўборцы, хлебаздачы і цераблені ільну, адзін сельсовет вызначан кандыдатам на чорную дошку, два сельсоветы атрымалі папярэджанне. Апрача таго Сазанаўскаму, Дабрынскаму і Іскозскаму сельсоветам, якія лічацца ў раёне перадавымі сельсоветамі, указваецца на недапушчальнае іх адставанне ва ўборцы, абмалоце і рассціле ільну. Такім чынам устанаўляем па матэрыялах самой-жа дубровенскай газеты, што на 15 жніўня шэсць сельсоветаў раёна дрэнна вядуць работу па ўборцы ільну. Сярод іх тры сельсоветы, якія лічацца ў раёне самымі перадавымі. Што-ж робіцца з ільном у астатніх сельсоветах раёна?

Звернемся да пастановы **СНК БССР** і **ЦК КП(б)Б** «Аб ходзе ўборкі і першапачатковай апрацоўкі ільну», надрукаванай у «Звяздзе» 24 жніўня. Вось як ацанілі ЦК КП(б)Б і СНК БССР работу дубровенскіх арганізацый:

> «Асабліва нездавальняючае становішча работы па ільну, як гэта паказала праверка, адзначаецца ў Шклоўскім, Дубровенскім і Талачынскім раёнах, дзе ўстаноўлена, што пытанням ільну раённыя партыйныя і советскія органы не ўдзяляюць амаль ніякай увагі, ні ў адным з гэтых раёнаў не выканана пастанова чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Да гэтага можна дадаць некалькі лічбаў. На 20 жніўня ў Дубровенскім раёне вытераблена **100** проц. ільну, разаслана-ж толькі **45,2** проц. і не паднята са сцелішчаў ні аднаго каліва.

Такім чынам падстаў для спявання пераможных гімнаў аб неіснуючых перамогах раёна для дубровенскай газеты няма ніякіх. Не такім тонам павінен гаварыць партыйны орган у той час, калі ў раёне агідна пастаўлена ўборка і апрацоўка ільну — вядучай культуры раёна.

Большая частка газеты займаецца пастановамі райкома, райвыканкома і камісіі па спаборніцтву; рэгулярна друкуюцца спісы перадавікоў, чырвоныя і чорныя дошкі. Але **няма ні адной карэспандэнцыі, у якой былі-б ускрыты прычыны адставання** раёна, сельсовета ці калгаса ва ўборцы і апрацоўцы ільну.

Увесь матэрыял дубровенскай газеты аб ільне — гэта некалькі выпадковых заметак з калгасаў, у якіх з здзіўляючым спакоем фіксуецца: тут цярэбяць, там не цярэбяць; тут рассцілаюць, там не рассцілаюць. Некалькі такіх заметачак і ўсё.

Газета нічога не піша пра тое, у якім становішчы знаходзяцца і як скарыстоўваюцца машыны па апрацоўцы ільну, як падрыхтаваны сушні, ільнозаводы і т. д. Усё гэта гаворыць аб тым, што папярэджанне ЦК і СНК дубровенскім раённым арганізацыям аб іх выключнай няўвазе к ільну цалкам адносіцца і да рэдакцыі газеты «За соцыялістычнае будаўніцтва».

Газета «За соцыялістычнае будаўніцтва» павінна змяніць свае адносіны да ўборкі і апрацоўкі важнейшай культуры раёна — ільну. Гутарка ідзе не аб тым, каб спяваць на старонках газеты гімны аб перамогах, якія яшчэ не заваяваны. Гутарка ідзе аб большэвіцкай барацьбе газеты за кожнае каліва ільну, за яго высокаякасную апрацоўку і датэрміновую здачу лепшай ільнопрадукцыі дзяржаве.

# Халастыя стрэлы

Яшчэ ў маі месяцы ў цэнтральным друку БССР была апублікавана пастанова **СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб дзяржаўным плане развіцця жывёлагадоўлі на 1935 год па Беларускай ССР»**. Для раённага друку, як і для раённых партыйных і савецкіх арганізацый і шырокіх мас працоўных, гэта пастанова з'яўляецца праграмай штодзеннай работы па ўздыму і развіццю жывёлагадоўлі.

Саюзны ўрад і ЦК ВКП(б) у пастанове аб дзяржаўным плане развіцця жывёлагадоўлі «прапануюць савецкім і партыйным арганізацыям БССР забяспечыць у 1935 годзе захаванне цялят ад выразкі, спыненне падзяжу маладняка на фермах і ў соўгасах, паляпшэнне ўтрымання і дагляду жывёлы на фермах і ў соўгасах, расшырэнне мерапрыемстваў па метызацыі мясцовай жывёлы і правядзенне неабходных работ па расшырэнню пасьбішчных і сенакосных угоддзяў за кошт асваення балот».

У маі месяцы быў абвешчан усесаюзны і ўсебеларускі конкурс на лепшую работу сельсоветаў. Адзін за галоўных паказальнікаў конкурса — разгортванне работы сельсоветаў і іх жывёлагадоўчых секцый па ўздыму жывёлагадоўлі, паляпшэнню дагляду і зберажэнню маладняка, стварэнню кармовай базы, пасьбішчаў. Адсюль — з папулярызацыі гэтых важнейшых дакументаў партыі і ўрада і канкрэтнай барацьбы за іх ажыццяўленне і павінна была пачынацца практычная работа раённай газеты.

Возьмем такую задачу, як стварэнне кармовай базы — гэтай вырашаючай умовы для развіцця жывёлагадоўлі, задачу паляпшэння і расшырэння пасьбішчаў, сенакосаў, і урэшце, сіласаванне—адзін з важнейшых вагароў уздыму жывёлагадоўлі. Як газета практычна змагаецца за лепшую пашу для жывёлы, як яна паказвае лепшых арганізатараў справы сіласавання? Ці надрукавалі асобныя газеты хоць па аднаму аператыўнаму артыкулу, які-б адказваў на пытанне, калі, што і як лепш сіласаваць? Ці піша, урэшце, раённая газета аб рабоце жывёлагадоўчай секцыі сельсовета?

***

Возьмем **«Калгаснік Кармяншчыны»** —газету раёна, які па выкананню сельскагаспадарчых работ стаіць на 55 месцы ў рэспубліцы. Пра «Калгаснік Кармяншчыны» нельга сказаць, што ён абмінае пытанні жывёлагадоўлі. Праз нумар, праз два газета друкуе аддзельчык «Жывёлагадоўля». Але якасць матэрыялаў гэтага аддзельчыка стаіць на такім узроўні, што многія заметкі астаюцца пустым стрэлам. **«Вынікі бяздзейнасці», «Вынікі кулацкіх адносін да працы», «Брыгадзір Махоў калечыць коней», «Ферма без гаспадара», «Прыняць меры да сабатажніка»** — з аднаго толькі гэтага пераліку загалоўкаў заметак няцяжка ўявіць іх змест. Усе заметкі—суцэльная чорная пляма.

Заглянем у чарговы 57 нумар газеты. І тут таксама толькі і ўбачым, што жывёлу «знішчаюць» ды «не даглядаюць». Хочаш бачыць хоць аднаго прыкладнага загадчыка МТФ, даглядчыцу, пастуха, якія ёсць у раёне. Але іх чамусьці ніяк не можа адшукаць раённая газета.

Са спазненнем, але 7 чэрвеня газета ўсё-ж надрукавала пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб дзяржаўным плане развіцця жывёлагадоўлі па БССР. Аднак, і гэта не ўносіць ніякіх змен у формы і метады работы газеты па ўздыму жывёлагадоўлі. І пасля 7 чэрвеня ідуць толькі агульныя заклікі ў форме «Камплектаваць МТФ здаровым маладняком», «Палепшыць догляд», «Выкарчаваць абязлічку».

Уявіце зараз другі малюнак. Раённая газета ўключылася ў абвешчаны ўсесаюзны і ўсебеларускі конкурс сельсоветаў на лепшую работу па жывёлагадоўлі. Газета папулярызуе ў спецыяльных рэдакцыйных артыкулах важнейшае значэнне пастановы саюзнага ўрада і партыі аб плане развіцця жывёлагадоўлі. На старонках газеты выступілі члены жывёлагадоўчых секцый сельсоветаў з канкрэтнымі прапановамі па захаванню маладняка, паляпшэнню пасьбішчаў і сенакосаў. Лепшыя пастухі расказалі, як яны наладзілі кругласутачную пасьбу жывёлы і дабіліся павелічэння ўдояў. Брыгадзіры перадавых калгасаў расказалі аб каштоўным вопыце сіласавання пустазелля, бульбоўніку і розных

адыходаў ад гародніны. У дадатак з'явіўся артыкул раённага агранома з практычнымі парадамі як, што і калі лепш сіласаваць. Следам за гэтым газета надрукавала артыкул заатэхніка аб паляпшэнні пароды жывёлы і артыкул «Як рыхтаваць хлявы на зіму».

Уявіце зараз, якім каштоўным дапаўненнем з'явіўся-б гэты матэрыял да звычайных заметак раённай газеты «На ферме няма парадку», «Маладняк знішчаюць», «Сіласаванне не распачыналі». Але ў тым-то і бяда, што такога матэрыялу пакуль што няма ў кармянскай і ў многіх другіх раённых газетах.

Аб сіласаванні кармоў многія газеты наогул не лічаць патрэбным турбавацца. І тая-ж кармянская раённая газета ўспамінае аб сіласаванні зусім выпадкова ў 20-радковай заметачцы «На сіласаванне забыліся». Гэта ў нумары за 9 ліпеня. З таго часу прайшло паўтара месяца, а з газеты не ведаць, як ідзе ў раёне сіласаванне і загатоўка кармоў. І толькі зводка ў цэнтральным друку паказвае: **Кармянскі раён выканаў план сіласавання на... 11 проц.**

***

20 ліпеня рэдакцыя капыльскай раённай газеты **«Калгаснік Капыльшчыны»** ў аншлагу на першай старонцы пісала:

> **«Наверстаць упушчанае. Да уборкі выканаць план сіласавання на 50 проц.».**

Гэты свой загад рэдакцыя падмацоўвае заметкай з Ланцуцкага сельсовета **«Лук'янчык сіласуе языком»**. Побач заметка з Старыцкага сельсовета **«Адкладаюць на восень»**. Тут-жа і перадавы артыкул «Барацца за сілас па-большэвіцку».

Праз нумар, 26 лістапада, рэдакцыя зноў паўтарае заўчарашні свой аншлаг. І сёння, як і заўчора, ён змешчан на той-жа першай старонцы і зноў у тым-жа загадным ладзе:

> **«Да пачатку ўборкі зернавых засіласаваць не менш 50 проц. гадавога плана.**

Не гаворачы пра агульную бяграматнасць такіх заклікаў, як «сіласаваць планы» і «барацца за сілас», спынімся на якасці асобных падборак і цэлых палос газеты, якія на першы погляд прысвечаны пытанням барацьбы за сілас. Возьмем той-жа нумар за 26 ліпеня. Прачытаўшы лозунг «Да пачатку ўборкі зернавых засіласаваць не менш 50 проц. гадавога плана», чытач з поўным правам шукае пад ім канкрэтных матэрыялаў аб ходзе сіласавання зялёнай масы ў адстаючых і перадавых калгасах. У данай паласе такіх матэрыялаў не аказалася. Выявілася адна з акалічнасцей работы — своеасаблівае ўціранне вачэй, калі голай «шапкай» — лозунгам стараецца ўражанне барацьбы газеты за ажыццяўленне таго ці іншага мерапрыемства партыі і ўрада.

Перагортваем далей старонкі камплекта. І зноў праз нумар, і зноў у тым самым загадным ладзе загаловак артыкула: **«Да поўнага разгару ўборачнай засіласаваць 50 проц. плана»**. У гэтым артыкуле рэдакцыя бязлітасна расправляецца з работнікамі жывёлагадоўчага сектара райза, якія «паўбіраўшы ўсе ў каўняры, сядзяць на месцы», выкрывае «самога загадчыка райза Яцкевіча і дырэкцыю МТС, якія праступна маўчаць і не прымаюць рашучых мер да зрыўшчыкаў дакасавічнага плана сіласавання». Аднаго не хапае ў гэтым суцэльным ляманце і крыку—паказу канкрэтных спраў, паказу жывых людзей. У артыкуле няма адказу на пытанне, чаму ў адным месцы заканчваюць сіласаванне, а ў другім — зрываюць гэты важнейшы ўчастак работы. Узняўшы агульны крык, рэдакцыя тут-жа прагаварваецца:

> **«Праўда, ёсць рад калгасаў, якія па-большэвіцку ўзяліся за сіласаванне. Вось хоць-бы калгасы перадавога Лешнянскага сельсовета. Па Лешнянскаму сельсовету гадавы план сіласавання выканан на 69 проц.».**

Аказваецца, не ўсюды сядзяць адны толькі сабатажнікі жывёлагадоўлі. Ёсць калгасы, аб лепшых людзях якіх можна было і варта было расказаць усім чытачам. Калі-б газета расказала пра іх вопыт вуснамі саміх калгаснікаў-ударнікаў, брыгадзіраў, якім-бы заражаючым прыкладам было гэта для адстаючых. І дзейснасць такіх матэрыялаў непараўнальна ўрасла-б.

Рэдакцыя-ж «Калгасніка Капыльшчыны» ахайвае ўсіх. Замест таго, каб пабываць у 2—3 калгасах і вывучыць прычыны адставання ў сіласаванні, рэдакцыя размахвае кулакамі наогул «Віноватыя ў

злачынным зрыве сіласавання павінны адказаць» і т. д.

Карысць ад такіх агульных пакрыкванняў невялікая. Гэта відаць нават па тых мізэрных 24 процантах выканання плана сіласавання, якія меў раён на 10 жніўня. Навошта-ж тады рэдакцыя ў 3 нумарах запар загадвала:

**«Да поўнага разгару ўборачнай засіласаваць 50 проц. плана».**

Дзе-ж дзейснасць гэтых агульных, невядома каму адрасаваных загадаў?

**
*

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) абавязаў «адначасова з праводзеннем сенаўборкі правесці да пачатку ўборкі сіласаванне пустазелля, дзікарастучых траў і ранніх сіласных пасеваў у размерах не менш 50 проц. гадавога плана». Рад раёнаў БССР не выканаў гэтай дырэктывы партыі, за што ў значнай меры адказваюць і раённыя газеты.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б, улічваючы ўмовы надвор'я гэтага года, якое ў значнай меры адбілася на якасці сена, патрабуюць ад раённых арганізацый, дырэктароў МТС, трэстаў і саўгасаў і праўленняў калгасаў побач з неабходнасцю за вяршэння ў бліжэйшыя-ж дні сенаўборкі першага ўкосу, асаблівую ўвагу сканцэнтраваць на арганізацыі і правядзенні другога ўкосу (атавы) і па ўзмацненні тэмпаў сіласавання».

Максімальную ўвагу трэба звярнуць на барацьбу за поўнае скарыстанне на сілас атавы асок і аеру, розных адыходаў ад ранняй гародніны і бульбоўніку за 5—7 дзён да выбаркі бульбы. І адначасова з барацьбой за выкананне плана сіласавання ні на мінуту не забываць аб якасці і тэрмінах загрузкі ям і траншэй, аб якасці ўтрамбоўкі зялёнай масы. Увага сіласу — трактару жывёлагадоўлі!

## У РЭДАКЦЫЯХ РАЁННЫХ ГАЗЕТ

□□□

# Людзі „Рэчыцкай праўды“

У габінеце рэдактара **«Рэчыцкай праўды»** ідзе нарада. Сабраліся ўсе работнікі рэдакцыі. Старшынствуе намеснік рэдактара т. **Навара.** Тав. Навара гаворыць, астатнія ўважліва слухаюць яго прамову:

— Хлопцы! Дрэнна ў нас атрымліваецца. Толькі пару дзён як рэдактар т. **Грынглаз** паехаў у Менск, а ў рэдакцыі ў нас чорт ведае што творыцца. Матэрыял своечасова не здаем. Дысцыпліна ўпала. Вось Кавалеўскі і Краснакуцкі. Учора яны павінны былі здаць матэрыял у нумар і не здалі. Цэлы дзень іх у рэдакцыі не было, ездзілі гуляць у Горваль. Нам-жа, таварышы, чырванець прыйдзецца перад рэдактарам.

Слухачы падобны да напраказіўшых вучняў, якім настаўнік дае бацькоўскае настаўленне. Яны сядзяць моўчкі, імкнуцца не глядзець адзін аднаму ў вочы, і згодна ківаюць галовамі ў поўных месцах прамовы тав. Навара. Кавалеўскі і Краснакуцкі нервова ёрзаюць на крэслах, іх узрокі накіраваны за акно, на шырокую роўнядзь Дняпра... «Зноў гаварыльня... Няхай пагаворыць... Не першы раз і не апошні».

Але справа раптам прымае зусім іншы зварот.

— Годзе! — рэзка павышае голас Навара.—Годзе ўжо займацца размовамі аб дысцыпліне. Кавалеўскі! Колькі табе вынесена папярэджанняў і вымоў? Не памятаеш? Добра. Ёсць прапанова: зволіць Кавалеўскага з рэдакцыі. Якія будуць думкі?

Збянтэжаныя такой нечаканай дэмакратыяй, работнікі рэдакцыі не выказваюць сваіх думак. Чутны рэплікі:

— Табе відней.

— Ты-ж намеснік рэдактара...

Пытанне ўсё-ж ставіцца на галасаванне. Неахвотна падымаюць рукі. Вырашана: Кавалеўскага з рэдакцыі зволіць.

Так вырашаюцца пытанні звальнення работнікаў у рэдакцыі «Рэчыцкай праўды». Як кажуць: дзіўна, але факт.

З дысцыплінай у рэдакцыі сапраўды не важна. Некаторыя работнікі не пытаюць дазволу намесніка рэдактара, калі трэба пайсці ў рабочы час па сваіх асабістых справах. Цяжка сказаць, дзе знаходзіцца работнік, калі яго няма ў рэдакцыі. Спазненні на работу — звычайная з'ява. Нярэдкі прагулы па цэламу дню.

Намеснік рэдактара т. Навара імкнецца ўмацаваць працоўную дысцыпліну ў рэдакцыі яўна нягоднымі сродкамі. Звальненне работнікаў шляхам галасавання падрывае аўтарытэт рэдактара, парушае прынцып адзінаначалля і гэтым самым расхіствае працоўную дысцыпліну.

У выпадку з Кавалеўскім так і выйшла. Тым больш, што з вялікай хмары атрымаўся малы дождж: Кавалеўскі і па сёнешні дзень працуе ў рэдакцыі.

Пазнаёмімся бліжэй з работнікамі «Рэчыцкай праўды». Пачнем хоць-бы з т. **Л. Каплана** — загадчыка аддзелам жывёлагадоўлі. Кандыдат партыі т. Каплан на газетнай рабоце з пачатку 1932 года. Увесь час ён працуе ў «Рэчыцкай праўдзе». Да гэтага быў на вытворчасці. Нам даводзілася сустракацца з т. Капланам у 1932 годзе. Тады гэта быў чалавек, які працаваў у газеце вобмацкам. Моцна адчувалася адсутнасць элементарнай палітычнай і агульнаасветнай падрыхтоўкі.

Прайшло тры гады. Мы зноў сустрэліся і гутарым, як старыя знаёмыя. На першы погляд, Каплан зрабіў вялікі крок наперад.

— Каплан моцны работнік, — заяўляюць работнікі рэдакцыі: — Куды яго не пашлі — зробіць справу. А галоўнае, на ўсе рукі майстар: саджай яго ў любы аддзел — выцягне.

Так і робяць. За тры гады Каплан змяніў многа пасад: інструктар, загадчык аддзела пісем, потым аддзела жывёлагадоўлі... А нядаўна т. Навара даручыў яму весці ў газеце пытанні культурнага будаўніцтва.

Тав. Каплан за тры гады аб'ездзіў увесь раён, пабываў у большасці калгасаў, коратка знаём з дзесяткамі старшынь калгасаў, брыгадзіраў і калгаснікаў. І піша па ўсіх пытаннях, якія даручаюцца рэдакцыяй.

— Культуру? — заявіў ён на рэдакцыйнай нарадзе. — Можна і культуру, не прывыкаць.

Але пад гэтым універсалізмам т. Каплана хаваецца ўсё тое-ж, што і ў 1932 годзе — яго палітычная і культурная адсталасць. Каплан, як кажуць, набіў руку, усвоіў некалькі прыёмаў газетнай работы, пісання артыкулаў, імі карыстаецца і на іх закасцянеў. За тры гады ён прачытаў не больш дзесятка кніг.

Зайшла гутарка аб якімсьці цікавым артыкуле «Праўды».

— Не чытаў я артыкула. Наогул «Праўды» я не чытаю, — прызнаецца Каплан.

— А якія-ж газеты чытаеш?

— Рэдка калі чытаю «Звязду», «Калгаснік Беларусі». Верней, праглядаю ў рэдакцыі.

Ці трэба што-небудзь дадаваць да характарыстыкі т. Каплана, як кандыдата партыі і газетнага работніка, пасля гэтага кароткага, але красамоўнага дыялога?

Але будзе несправядліва гаварыць так толькі пра т. Каплана. У рэдакцыі «Рэчыцкай праўды» рэгулярна чытаюць газеты і літаратуру толькі тт. Навара і В. Анэт (загадчык сельскагаспадарчага аддзела).

З мінулага года ў рэдакцыі працуе скончыўшы Магілеўскі газетны тэхнікум камсамолец т. **Пінчук.** З першых дзён работы тав. Пінчук адчуў, што прышоўся рэдакцыі не «к двару». Ён стаў аб'ектам пастаянных кпін з боку ўсіх работнікаў рэдакцыі. Часта можна наглядаць такую карціну. Адзін з работнікаў рэдакцыі бярэ рукапіс заметкі т. Пінчука і ў голас чытае вытрымкі з яе. Сцены рэдакцыі патрасаюцца выбухамі рогату.

Безсумнэчна, піша яшчэ т. Пінчук не важна. Але ці такімі метадамі трэба вучыць яго? Ніхто не гаворыць з ім па душах, не распытвае, як яму даецца работа ў газеце, што ён чытае, як жыве. І сядзіць чалавек, скончыўшы газетны тэхнікум, ужо год на адным месцы і ніякіх перспектываў пры цяперашніх адносінах у рэдакцыі няма на яго далейшы рост.

Як-жа з астатнімі работнікамі рэдакцыі? Краснакуцкі і Кавалеўскі таксама не могуць падзякаваць рэдактара і яго намесніка за ўвагу да іх.

Характэрны такі факт. Калі гутарка зайшла пра чытанне газет, работнікі рэдакцыі пачалі скардзіцца на тое, што ім не далі магчымасці выпісаць «Праўду». Звярачаемся да т. Навара:

— Няўжо нельга дабіцца забеспячэння работнікаў раённай газеты «Праўдой»?

Намеснік рэдактара быў вельмі здзіўлен:

— Як! Вы не маеце «Праўды»? Першы раз чую пра гэта. Зразумела, можна дабіцца, каб кожнаму работніку выпісалі «Праўду».

Рэдактар і намеснік рэдактара «Рэчыцкай праўды» патрабуюць ад работнікаў рэдакцыі толькі здачы матэрыялу ў тэрмін. Ідэйна-палітычны рост работнікаў, іх вучоба, работа над сабой кіраўніцтва рэдакцыі не цікавіць.

Ці так павінна быць? Не, не так. Рэдактар павінен быць не толькі палітычным кіраўніком газеты, якую рэдагуе, не толькі адміністратарам-агульнаначальнікам, але і **клапатлівым выхавальнікам** людзей, якія робяць газету. Апошняе неадлучна ад барацьбы за якасць, за культурнасць газеты, бо чым вышэй будзе палітычны і культурны ўзровень работнікаў рэдакцыі і селькораў, тым лепшай ва ўсіх адносінах будзе газета.

Не цікавіцца, пагарджаць выхаваннем работнікаў рэдакцыі і рабселькораў можа толькі дрэнны рэдактар, якому нядорага даручаная яму партыйная справа.

Апісаныя тут факты з практыкі работы рэдакцыі «Рэчыцкай праўды» гавораць аб тым, што кіраўнікі рэчыцкай газеты не зрабілі для сябе вывадаў з гістарычнай прамовы таварыша **Сталіна** аб кадрах.

Зразумела, у рэдакцыі «Рэчыцкай праўды» прапрацавалі прамову тав. Сталіна. Сказана было нямала прыгожых слоў. Вынеслі таксама надрэзныя прапановы. Напрыклад, вывучаць гісторыю партыі, пачаць рэгулярныя заняткі па павышэнню газетнай кваліфікацыі, вывучаць літаратуру, нямецкую мову. Але чаго варты гэтыя добрыя прапановы, калі цяпер з усіх работнікаў газеты толькі адзін (т.Каплан) вывучае гісторыю партыі, а астатнія пяць не займаюцца нідзе? Каму-каму, а ўжо рэдактару газеты павінна быць добра вядома, што справа выхавання людзей, як і кожная бальшавіцкая справа, не вырашаецца вынясеннем пастановы.

Рэдактару нельга абмяжоўвацца толькі патрабаваннем ад работнікаў рэдакцыі выканання заданняў па выпуску нумара газеты. Ён павінен арганізаваць вучобу работнікаў рэдакцыі. Рэдактар павінен ведаць, чым жыве кожны дзень яго работнік, якая падрыхтоўка кожнага работніка ў паасобку, што кожны работнік чытае. Рэдактар павінен клапаціцца аб матэрыяльным і бытавым становішчы работнікаў рэдакцыі.

Гэта трэба рэдактару не для простай цікавасці, а для таго, каб штодзенна кіраваць ростам работнікаў рэдакцыі, каб выхоўваць кожнага з іх, каб своечасова дапамагчы таму таварышу, які мае патрэбу ў дапамозе, каб даць яму своечасовую і талковую параду.

# Хто рэдагуе брагінскую газету

★ ★ ★ Б. Г. ЗЕЛЬТЦЭР. ★ ★ ★

1 чэрвеня 1935 г. адказны рэдактар брагінскай раённай газеты **Пецярэнка** прышоў у рэдакцыю ў 9 гадзін раніцы, раней звычайнага на цэлыя тры гадзіны. Пакапаўшыся ў шуфлядах свайго стала, прагледзеўшы некалькі прысланых у парадку абмену раённых газет, ён урачыста аб'явіў, што ад'язджае ў адпачынак, а газету будзе **падпісваць** (не рэдагаваць, а падпісваць) загадчык райана т. **Гусакоў.**

1 і 2 чэрвеня газета не выходзіла. Рыхтавалі провады рэдактару. 2 чэрвеня рэдактар паехаў, а газета за 4 чэрвеня выйшла яшчэ за подпісам **Пецярэнка.** Аказалася, што ў друкарні забылі змяніць подпіс. Фактычна ніякай розніцы няма, які будзе подпіс. Як пастаянны рэдактар Пецярэнка, так і часовы Гусакоў газету не рэдагуюць. Газету ўвесь час рэдагуе беспартыйны сакратар т. **Сабаленка.** У абавязак рэдактара па «традыцыі», якая ўстанавілася ў Брагіне, уваходзіць толькі прагляд «шапак» і загалоўкаў (і то пасля надрукавання і рассылкі газеты). І на самой справе: не затрымліваць-жа газету, не плаціць-жа друкарам за прастой, бо рэдактар можа спазніцца: то на паляванне паехаў, то на веласіпедзе раз'язджае. Мала дзе быў рэдактар!

Таму і зусім не дзіўна, што за апошнія паўтара месяца (чэрвень—ліпень) у газеце многа раз мяняліся прозвішчы рэдактароў.

Нумары 50, 51 і 52 падпісаны загадчыкам райана Гусаковым, які ў рэдакцыю не заходзіў, матэрыялаў не чытаў. Загалоўкі і «шапкі» праглядваў па атрыманні газеты ў райана.

Нумары 57, 58 і 59 падпісаў практыкант КІЖ'а Лемеш, які на гэта не меў ніякага права.

Нумары 60, 61, 62, 63, 64, і 65 падпісаны прозвішчам намесніка рэдактара т. **Расіна,** але матэрыялаў чатырох нумароў (з 62 па 65) Расін нават не бачыў, бо паехаў па прапанове сакратара райкома т. Гранькова ў сельсоветы ўпаўнаважаным РК і РВК па ўборцы. Гэтыя нумары газеты т. Расін чытаў па прыездзе з сельсоветаў, праз дзесяць дзён.

Праз 16 дзён прыехаў Пецярэнка. Аказваецца, ён быў не ў адпачынку, а ездзіў у «камандзіроўку» — у госці да цёшчы ў г. Барысаў (у адпачынак т. Пецярэнка ездзіў яшчэ раз у ліпені). У гасцях Пецярэнка быў 14 дзён, за што атрымаў камандзіровачныя, кватэрныя і праязныя. Гэтыя госці каштавалі рэдакцыі 293 рублі.

Цяпер зразумела, чаму газета працуе без плана, чаму рэдакцыйныя нарады ў Брагіне не практыкуюцца, чаму **за чэрвень і жнівень толькі ў двух нумарах можна знайсці матэрыялы аб партыйнай рабоце,** чаму **не асвятляўся ход праверкі партыйных дакументаў,** чаму т. **Пецярэнка не выканаў указання сакратара райкома т.** Гранькова **аб выкрыцці трацкісцка-зіноўеўскай групоўкі, якая дзейнічала ў Брагіне пад кіраўніцтвам райпракурора трацкіста Гафта** (удзельнікі групоўкі выключаны з партыі). А калі да гэтага дадаць, што ўсе перадавыя артыкулы, змешчаныя ў газеце, пісаў амаль выключна беспартыйны сакратар рэдакцыі, што гэтыя артыкулы, як і ўсе артыкулы і заметкі ў газеце, толькі канстатуюць факты і падзеі, не даючы ніякіх установак, стане зусім зразумелым, што рэдактар брагінскай газеты Пецярэнка бяздзейнічае, а не працуе.

У рэзультаце такіх выключна безадказных адносін рэдактара да работы матэрыял у брагінскай газеце змяшчаецца самацёчны, літаратурна дрэнна апрацаваны. Палітычна шкодныя скажэнні — часта бываюць на старонках **«Трыбуны калгасніка».**

У лістападзе 1934 года сакратар ЦК КП(б)Б **Валковіч** прыслаў брагінскаму РК КП(б)Б тэлеграму аб узмацненні тэмпаў ільнозагатовак. У тэлеграме было сказана «...Сваёй дрэннай работай, недапушчальным лібералізмам да сабатажнікаў, зрыўшчыкаў плана, вы **губіце** раён...» З-за безадказнасці рэдактара ў спецыяльна выпушчаным бюле-

тэні гэтае месца з тэлеграмы сакратара ЦК было надрукавана так: «Сваёй дрэннай работай, недапушчальным лібералізмам да сабатажнікаў, зрыўшчыкаў плана, вы **грабіце** раён...»

Большасць тыражу бюлетэня разаслалі з гэтай агіднейшай «апячаткай», частку выправілі чарнілямі. У наступных нумарах газеты нават папраўкі не далі, а ў райкоме аб гэтым агіднейшым факце і не ведалі.

У ліпені 1935 г. у адным артыкуле пра недахопы ў калгасе імя Сталіна зрабілі прыблізна такое абагульненне: «Калгас імя Сталіна з кожным днём ідзе не ў тару, а слабее». (На самой-жа справе гэты калгас з кожным днём мацнее). Выявілася, што аўтар гэтага артыкула, нам. рэдактара т. Расін, так не пісаў, а падобная фармулёўка атрымалася пры стылістычнай апрацоўцы матэрыялу... карэктарам.

Стыль і літаратурная апрацоўка матэрыялаў у брагінскай газеце наогул дрэнныя. Кожная заметка пачынаецца стандартным «у калгасе» ... «у калгасе жыве нейкі»... «калгасу патрэбна...» і т. д. Адну заметку ад другой можна адрозніць толькі па подпісу, або па назве калгаса, ці па прозвішчах пералічаных у заметцы людзей. Усё астатняе кропка ў кропку супадае.

Не дзіўна, што пры такой рабоце газеты тыраж не дасягае толькі 2.400 экземпляраў.

**
*

Паглядзім зараз на другі бок работы рэдакцыі «Трыбуны калгасніка» — на становішча «газетнай гаспадаркі». Становішча гаспадаркі брагінскай газеты можа служыць яркім прыкладам безгаспадарчасці, злачынных адносін да выдаткавання дзяржаўных сродкаў, да работы.

З атрыманых газетай 20.000 руб. датацыі на ўвесь 1935 год ужо выдаткавана да жніўня 16.500 руб.

Грошы выдаюцца без усякага плана, не па прызначэнню.

Так, па камандзіровачным за першае паўгоддзе выдаткавана больш 1.500 руб., а па плану на цэлы год было намечана каля 900 руб. Плацілі камандзіровачныя за паездкі ў госці і т. д. Выдаваліся авансы работнікам, у першую чаргу рэдактару, па 200—300 руб. Авансы гэтыя, зразумела, пакрываліся не ўсе. 500 руб., атрыманых у РВК па правядзенне курсаў рэдактароў насценгазет, прысвоены рэдактарам т. Пецярэнка. У бухгалтарскіх справах прышыт нават рахунак віннай крамы за купленыя для нейкага банкета «41 бутылкі мядку, 10 бутылак партвейну, 5 бутылак па 7 р. 50 к. і 3 поўлітры па 6 руб.» і т. д. на 256 руб. Увесь гэты банкет абышоўся рэдакцыі ў 1.275 р.

Аплачан рахунак за куплю ботаў для рэдактара і сакратара, за куплю нейкіх фікусаў і інш. На ўсё гэта пускалі дзяржаўныя грошы.

У рэзультаце такіх выдаткаў не хапае, па прыблізных падліках, для забеспячэння выхаду газеты да канца года каля 5—7 тысяч руб.

Вельмі дрэнна абстаіць справа і з іншай, так званай «гаспадаркай» у брагінскай рэдакцыі.

Архівы газет не падшываюцца. Атрымліваемыя паперы з ЦК, Дзяржплана і іншых устаноў валяюцца па ўсіх шафах і сталах. Справы для падшыўкі папер у 1935 г. не заведзены. Частка рознай перапіскі знаходзіцца на кватэрах у рэдактара і асобных работнікаў рэдакцыі. Пісьмы рабсселькораў складзены ў беспарадку ў шафах, якія не закрываюцца. Службовых спіскаў на работнікаў рэдакцыі няма. У рэдакцыі паўнейшы хаос, неразбярыха, бруд.

**
*

Пецярэнка вярнуўся з адпачынку. Ён зноў падпісвае газету.

Трэба думаць, што брагінскі райком КП(б)Б зоймецца цяпер сур'ёзна работай і справамі рэдактара сваёй газеты, комуніста Пецярэнка.

Бяздзейнікі, людзі, якія залазяць у дзяржаўную кішэню, як у сваю ўласную, не могуць і не павінны кіраваць партыйнай газетай.

# У рэдакцыі „Калектывіста“ ўсё па старому

★ ★ ★ **А. ЮШКЕВІЧ.** ★ ★ ★

Раніца ў рэдакцыі чэрвеньскай раённай газеты **«Калектывіст»** пачынаецца з расказвання анекдотаў. Усе супрацоўнікі збіраюцца ў адзін пакой і групуюцца вакол расказчыка. Напружаная цішыня паміпутна ўзрываецца выбухам рогату.

Так праходзіць гадзіна, другая... Потым нехта ўспамінае, што пара абедаць. Анекдоты спыняюцца, супрацоўнікі ідуць абедаць.

Устае пытанне: калі-ж людзі працуюць? У чэрвеньскай рэдакцыі так званая «гарачая пара» пачынаецца вечарам, калі высвятляецца, што ў нумар, які павінен выйсці заўтра, не здана яшчэ ні радка, і пачынаецца ліхаманкавая спешка.

Бывае так, што цэлыя дні работнікі рэдакцыі нічога не робяць. Напрыклад, сёння вышаў нумар газеты, чарговы нумар павінен выйсці праз два дні. Робіцца так. Адзін дзень рэдакцыя не здае ў набор ні аднаго радка. Другі дзень — дзень вёрсткі нумара—да 2—3 гадзін займаюцца анекдотамі і рознымі размовамі, матэрыял-жа здаюць толькі вечарам.

***

Вечарам 30 чэрвеня сабралася рэдакцыйная нарада. Намячаецца план чарговага нумара, які выйдзе 2 ліпеня. Рэдактар прапануе правесці рэйд па праверцы вырошчвання маладняка на калгасных фермах. Вынікі рэйда павінны быць надрукаваны ў нумары за 2 ліпеня. Некаторыя таварышы, — і гэта зусім верна, — выказваюцца аб немагчымасці падрыхтаваць і правесці рэйд за такі кароткі тэрмін. Рэдактар настойвае на сваім.

Назаўтра людзі былі ў калгасах і к вечару наступнага дня ўжо рыхтаваўся матэрыял. «Рэйд» быў праведзен. З першага погляду можна толькі пазайздросціць такой звышаператыўнасці рэдакцыі.

Але нумар 2 ліпеня ўсё-ж не вышаў. Не вышаў таму, што матэрыял «рэйда» быў вельмі слабы. Прышлося яго дапаўняць і пераапрацоўваць.

Або вось другі, не менш характэрны факт. Рэдактар т. **Пыко** рашыў 21 чэрвеня склікаць **курсы рэдактароў насценгазет** Хутарскога сельсовета. Добрае, патрэбнае мерапрыемства. Але як яно арганізуецца? Да 20 чэрвеня ніхто ў Хутарскім сельсовеце нічога не ведаў пра курсы. Толькі 20 чэрвеня ў сельсовет выяздждае работнік рэдакцыі. Не дагаворана аб памяшканні, аб харчаванні. Як і трэба было чакаць, курсы сарваліся.

Такава ва ўсёй яе непрыглядпасці сістэма работы рэдакцыі чэрвеньскага «Калектывіста».

Галоўнае зло ў рабоце рэдакцыі ў адсутнасці ўсякай планавасці. Рэдактар Пыко і яго намеснік **Касоўскі** нават арыентыровачна не скажуць, якія пытанні будуць асветлены ў двух-трох чарговых нумарах газеты. План чарговага нумара складаецца, як правіла, за дзень-два да яго выхаду.

Большая частка газеты «Калектывіст» запаўняецца артыкуламі работнікаў рэдакцыі і перадрукам. Вось прыклады.

У нумары за 21 чэрвеня надрукаваны дзевяць артыкулаў работнікаў рэдакцыі і толькі дзве селькораўскія заметкі. У № 58—шэсць артыкулаў работнікаў рэдакцыі і дзевяць невялікіх заметак селькораў.

Нумар робіцца амаль выключна рукамі работнікаў рэдакцыі. Паміж выхадам двух нумароў работнікі рэдакцыі выязджаюць на раён. У іх адно заданне — сабраць матэрыял. У калгасах бываюць адзін — самае большае два дні: трэба спяшацца ў раён, бо інакш затрымаецца выхад нумара. Зразумела, што за адзін дзень работнік рэдакцыі не можа вывучыць работу калгаса, брыгады, і матэрыял атрымліваецца паверхоўны. Работнікі рэдакцыі ў час выездаў у калгасы «за матэрыялам» не маюць магчымасці дапамагчы рэдкалегіі калгаснай насценгазеты заняцца вучобай селькораў і арганізацыяй селькораўскага матэрыялу.

У выніку адсутнасці сістэматычнай работы з рабселькорамі рэдакцыя «Калектывіста» атрымлівае мала рабселькораўскіх пісем. Работнікі рэдакцыі схільны тлумачыць гэта ўсім чым хочаце, толькі не сваёй дрэннай работай з рабселькорамі. Работнік рэдакцыі т. Зысман

напрыклад, так тлумачыць малы прыток пісем у рэдакцыю: «Зараз — сенаўборка і селькорам няма часу».

Другой прычынай слабай актыўнасці селькораў Чэрвеньшчыны з'яўляецца тое, што рэдакцыя яшчэ і да гэтага часу не дабілася належнага рэагавання на пісьмы. Паўтараецца старая гісторыя. Рэдакцыя пасылае большую частку рабселькораўскіх заметак на расследванне і назаўсёды забывае пра пасланыя заметкі.

Рэдакцыя не ведае і не вывучае сваіх селькораў. Таму ўсе заметкі, якія носяць выкрываючы характар, пасылаюцца на расследванне. На працягу красавіка-ліпеня з Лядзенскага сельсовета атрымана 10 заметак (мізэрная лічба). З іх надрукаваны толькі 2, а 8 пасланы на расследванне. З Раваніцкага сельсовета атрымана за той-жа час 14 заметак, надрукавана толькі 4; з Руднянскага атрымана 4 і ўсе 4 накіраваны на расследванне.

Як расследваюцца заметкі, пасылаемыя рэдакцыяй «Калектывіста», гавораць той факт, што на канец ліпеня не атрыманы адказы на 75 заметак, якія пасланы на расследванне ў студзені і лютым.

Агідна адносяцца да рабселькораўскіх заметак і ў самой рэдакцыі. Улік селькораў, рэгістрацыю заметак і адпраўку на расследванне, а таксама перапіску з селькорамі вядзе **машыністка т. Гантман.** Астатнія, так званыя «адказныя работнікі» рэдакцыі работу з рабселькораўскімі допісамі лічаць дробнай і зазорнай для сябе справай. Вось што робіцца ў сталах памянёнай машыністкі-універсала Гантман і сакратара рэдакцыі **Ліўшыц.**

74 заметкі з рэзалюцыяй «на расследванне» праляжалі ў рэдакцыі без усякага руху роўна чатыры месяцы.

У пачатку красавіка калгаснік Калтовіч Антон прыслаў у рэдакцыю заметку аб тым, што некаторыя калгаснікі калгаса імя Шмідта не абагуліді коней. Толькі праз два тыдні ў рэдакцыі вырашылі, што рабіць з заметкай. 23 красавіка на заметцы з'яўляецца рэдактарская рэзалюцыя: «Коні». Расшыфроўваецца гэта лаканічная рэзалюцыя так: «Змясціць у падборку аб абагульненні коней у калгасах». Пісьмо папала да рэгістратара, потым да сакратара і, нарэшце, у папку заметак пра жывёлагадоўлю. Два месяцы заметка праляжала ў гэтай папцы: у рэдакцыі ўсе чакалі, пакуль збярэцца падборка. Заметка ўстарэла і яе рашаюць спіхнуць з вачэй. На заметцы з'яўляецца другая рэзалюцыя: «Вайнілаўскаму сельсовету на расследванне». Але і ў сельсовет гэта заметка не папала, яна ўваходзіць у лік 74 заметак, замарынаваных у рэдакцыйных сталах.

Сумны лёс напатккаў і заметку аб грубым зажыме самакрытыкі ў калгасе «Іскры Ільіча» (старшыня калгаса сараў насценгазету і забараніў рэдкалегіі выпускаць насценгазету без ято папярэдняга прагляду заметак). Замест таго, каб тэрмінова выслаць свайго работніка праверыць гэту справу, рэдактар накіраваў заметку для расследвання ў міліцыю.

Аналагічная заметка (зрыў насценгазеты) з калгаса «Ленінскі шлях» таксама накіравана на расследванне ў міліцыю.

Ні першай, ні другой справай аб грубым зажыме самакрытыкі рэдакцыя не палічыла патрэбным заняцца самой. Аб гэтых фактах у газеце «Калектывіст» не было надрукавана ні радка.

Падамо яшчэ адзін факт. Многія селькоры прысылаюць у «Калектывіст» заметкі і просяць надрукаваць іх, не выкрываючы прозвішча селькора. Як-жа паступае рэдакцыя? Наперакор просьбе селькора і савецкім законам работнікі рэдакцыі закрэсліваюць псеўдонімы і друкуюць пад заметкамі сапраўдныя прозвішчы селькораў. Няма чаго сказаць, арыгінальны метад барацьбы з псеўдонімамі прыдумалі ў «Калектывісце».

Пры цяперашнім становішчы рэдакцыя газеты «Калектывіст» не можа справіцца з выкананнем задач, якія стаяць перад раённай газетай. Патрэбна тэрміновае ўмяшанне Чэрвеньскага райкома партыі.



## ТРЫБУНА ВОПЫТУ

★ ★ ★

# ЯК МЫ РАСШЫРАЕМ ТЭМАТЫКУ ГАЗЕТЫ

□ □ С. РАТКЕВІЧ, В. РАМАНОЎСКІ. □ □

Калі прагледзець апошнія нумары нашай раённай газеты **«Ўдарнік Дзяржыншчыны»** і параўнаць іх з леташнімі нумарамі, няцяжка заўважыць, што тэматыка газеты стала значна багацейшай і расшыраецца з кожным нумарам.

Не так даўно тэматыка газеты абмяжоўвалася амаль выключна пытаннямі бягучых гаспадарча-палітычных кампаній. Калі прыходзіла вясна, старонкі «Ўдарніка Дзяржыншчыны» запаўняліся пераважна так званым «пасеўным матэрыялам», увосень—матэрыяламі аб уборцы ўраджаю і загатоўках і т. д. Амаль не асвятляла газета пытанняў культуры, быту, работы школ, пытанняў работы партыйнай арганізацыі раёна.

У афармленні нумароў панаваў метад падачы матэрыялу падборкамі і старонкамі. Бывалі нумары, у якіх змешчаны тры-чатыры падборкі, г. зн. узняты толькі тры-чатыры пытанні. Характэрнай асаблівасцю мовы газеты ў той час з'яўляецца загадна-крыклівы тон, грозныя загалоўкі і «шапкі».

У пачатку гэтага года рэдакцыя «Ўдарніка Дзяржыншчыны» паставіла задачу—рашуча палепшыць якасць газеты, палепшыць яе мову і расшырыць тэматыку.

Неабходнасць такіх змен дыктавалася катэгарычнымі патрабаваннямі нашых чытачоў—калгаснікаў і калгасніц, запросы якіх непараўнальна ўзраслі і растуць з кожным днём. Дый самі абставіны работы партарганізацыі, работы калгасаў, якія рэзка змяніліся ў параўнанні з мінулымі гадамі, настойліва патрабавалі перабудовы работы газеты.

У Дзень друку 1935 года мы правялі канферэнцыі чытачоў «Ударніка Дзяржыншчыны». На канферэнцыях нам удалося сабраць надзвычай каштоўныя выказванні чытачоў аб тым, што трэба зрабіць для паляпшэння газеты. Гэтыя выказванні гавораць аб высокай патрабавальнасці нашых чытачоў—сёнешніх калгаснікаў і калгасніц, партыйцаў, камсамольцаў.

Вось што гаварыў аб «Ударніку Дзяржыншчыны» брыгадзір калгаса «Звязда», ён-жа камсамольскі арганізатар, **Антось Казей,** знатны чалавек нашага раёна, які атрымаў прэмію Наркамзема СССР і «Комсомольской правды» за пяршынства ў конкурсе маладых брыгадзіраў:

> **«Мне шмат дапамагаюць у рабоце матэрыялы партыйна-камсамольскага аддзела газеты. У іх я знаходжу напрамак у арганізацыі камсамольскай работы і вучобы. Недахоп газеты ў тым, што яна мала паказвае на сваіх старонках асобных ударнікаў, знатных людзей нашага раёна. Трэба, каб газета сістэматычна паказвала работу лепшых людзей з нашых калгасаў, ударнікаў на полі, на ферме і т. д.».**

Калгаснік калгаса імя Леніна тав. **Рублеўскі** больш за ўсё цікавіцца матэрыяламі аб гаспадарчым і культурным росце раёна. Газеце ён раіць завесці аддзел **«Раён за дзень»,** у якім друкаваць найбольш важныя, цікавыя падзеі, факты, якія адбыліся ў раёне на працягу аднаго дня.

Калгасніку т. Івашыну з таго-ж калгаса

> **«асабліва падабаецца ў газеце аддзел культпаходу. На старонках газеты апісваюцца культурныя, чыстыя, светлыя кватэры калгаснікаў, паказваюцца і грэзныя, некультурныя кватэры, якія захаваліся яшчэ дзе-ні-дзе ў калгасах. Гэта прымушае частку адсталых калгаснікаў мяняць свае звычкі і прыводзіць свае хаты ў парадак па прыкладу перадавых.**

**Колас Антон** — калгаснік калгаса «Прамень .соцыялізма» — перш за ўсё цікавіцца, што піша раённая газета пра яго калгас, на якім месцы ідзе калгас у раёне. Але не думайце, што інтарэсы калгасніка Коласа не выходзяць за межы свайго калгаса. Зусім не так. Тав. Колас тут-жа прапануе газеце расшырыць аддзел «Па СССР» і друкаваць у ім больш паведамленняў і апісанняў новых вынаходстваў.

Такавы некаторыя з шматлікіх выказванняў чытачоў нашай газеты. Гэтыя выказванні, парады і патрабаванні чытачоў вельмі многа дапамагаюць нам у барацьбе за паляпшэнне газеты.

Зразумела, нельга сцвярджаць, што «Ўдарнік Дзяржыншчыны» стаў узорнай газетай, адказваючай усім патрабаванням, якія ставіць сёння перад раённай газетай партыя, усім запросам сёнешняга чытача. Але многае ўжо зроблена.

Возьмем пытанні бягучых гаспадарча-палітычных кампаній. І цяпер, зразумела, гэтыя пытанні, як і пытанні партыйнага жыцця, стаяць на першым плане ў нашай газеце. Тут, як і ў іншых матэрыялах, мы рашуча адмовіліся ад крыклівага загаднага тону. Мы імкнемся ў селькораўскіх допісах і карэспандэнцыях работнікаў рэдакцыі паказаць, чаму адзін калгас ідзе перадавым, а другі адстае. Рэдакцыя патрабуе ад сваіх работнікаў глыбокага вывучэння таго пытання, пра якое трэба напісаць карэспандэнцыю. Гэтаму-ж мы вучым і нашых селькораў.

Такім чынам, паляпшаючы якасць, а, значыць, і дзейснасць матэрыялаў, мы мелі магчымасць без шкоды для справы зменшыць плошчу, якую раней займалі матэрыялы пра бягучыя гаспадарча-палітычныя кампаніі. Атрыманае ў рэзультаце гэтага месца займаем матэрыяламі, высоўваючымі **новыя** пытанні, якія раней у газеце не ставіліся.

Пастаяннае месца ў кожным нумары адводзім аддзелу **«Кароткія сігналы».** Сюды ўваходзяць пісьмы селькораў і калгаснікаў па самых розпастайных пытаннях. Пісьмы ў аддзеле друкуем кароткія і імкнемся падаць іх жыва. Асаблівую ўвагу аддаем загалоўкам над «кароткімі сігналамі». Вось, к прыкладу, некалькі такіх загалоўкаў: «На бок, Шавель едзе!», «Туравец дэкларуе», «Рахункавод, касір і п'яніца ў адной асобе», «Капрызы Пячонкіна», «Небяспечны кладаўшчык». Нашы загалоўкі не патрабуюць «ліквідаваць», «аддаць пад суд», «пакласці канец», але яны выказваюць адносіны рэдакцыі і аўтараў да фактаў, апісаных у заметках.

Але селькоры пішуць у газету не толькі пра сяўбу, уборку, загатоўкі, не толькі пра факты, якія падыходзяць для аддзела «Кароткія сігналы». Вельмі часта селькоры ўзнімаюць зусім новыя пытанні, якія маюць вялікае палітычнае значэнне.

У нас быў, напрыклад, такі факт. Адзін наш селькор з калгаса **«Прабуджэнне»** прыслаў у рэдакцыю пісьмо пра ўмовы работы калгаснага актывіста **Лобача** Пракопа. Тав. Лобач рэдагаваў калгасную насценгазету. З работай справўляўся добра. Тады выбралі яго старшынёй асоавіяхімаўскай арганізацыі. Справіўся і з двума нагрузкамі. Раз так, рашылі ў калгасе, дамо яму яшчэ нагрузак—выцягне! І ўзвалілі на т. Лобача камісію садзейнасці пракуратуры і ячэйку МОПР. У той-жа час т. Лобач—член праўлення калгаса і член сельсовета. Адным словам, «нагружалі» здольнага, каштоўнага работніка да таго, пакуль ён, натуральна, пачаў праваліваць адну работу за другой. Тады пачалі актывіста Лобача «прапрацоўваць» за «бяздзейнасць».

Мы ў рэдакцыі сур'ёзна абмеркавалі пісьмо аб т. Лобачу. Таварышы ўспомнілі падобныя факты няправільнага скарыстання актывістаў у другіх калгасах. Рашылі выдзеліць пісьмо, надаўшы яму прынцыпова-палітычнае значэнне. Так каштоўнае селькораўскае пісьмо падштурхнула нашу рэдакцыю, па прыкладу «Праўды», пачаць друкаваць заметкі **«На тэмы дня».** Першая заметка ў аддзеле «На тэмы дня» і была пра актывіста Лобача. Але мы ў заметцы не абмежаваліся толькі даным фактам, а паставілі перад комуністамі, кіраўнікамі калгасаў, рад задач выхавання актыва, скарыстання актывістаў.

На працягу апошніх месяцаў мы рэгулярна друкуем заметкі і артыкулы

«На тэму дня». Вось некаторыя з гэтых заметак: **«Аб раённай бібліятэцы», «Ці існуе ў горадзе клуб?», «На што скардзяцца дзеці»** (аб пазашкольным досугу дзяцей), **«А дзе-ж памыцца?», «Пажары і пажарнікі», «Аб касе і бабцы»** і інш. У большасці гэтых заметак скарыстаны факты, паведамленыя нашымі селькорамі. І сама рэдакцыя высоўвае пытанні для заметак «на тэмы дня». Такія пытанні ўсплываюць пры наведванні работнікамі рэдакцыі розных устаноў і арганізацый, калгасаў.

Вялікую ўвагу цяпер наша газета аддае паказу знатных людзей раёна. Мы паставілі задачу—паказваць лепшых ударнікаў не толькі ў святочных нумарах, а сістэматычна. На працягу чэрвеня і ліпеня мы паказалі ў газеце даглядчыцу з калгаса «9 студзеня» **Марыю Сняжко,** якая выгадавала калгасу 207 цялят, трактарыстаў **Бандарэнка** і **Савічава,** свінарку свінафермы саўгаса імя Свердлова т. **Белую.** Змясцілі нарысы пра некалькіх старыкоў-калгаснікаў, якія перажываюць у калгасе другую маладосць. Паказалі шчаслівых калгасных жанчын, якія першых сваіх дзяцей нараджалі на полі, у хляве ля каровы, на сенажаці, а цяпер карыстаюцца хатамі-радзільнямі, яслямі, дзіцячымі садамі. Са старонак газеты загаварылі многадзетныя калгасніцы. Яны расказалі маладым, як цяжка жылося жанчыне-сялянцы пры царызме і як радасна жыць і працаваць цяпер.

Вялікае месца ў апошнія месяцы ў газеце займаюць пытанні культуры і быту калгаснікаў. Работа гурткоў калгаснай мастацкай самадзейнасці, чыстая калгасная хата, двор і вуліца, спортпляцоўкі, прыгожыя клубы, культура ў памяшканнях сельсаветаў і праўленняў калгасаў, калгасныя лазні, кіно—вось далёка няпоўны пералік пытанняў з галіны культуры і быту, якія асвятляе «Ўдарнік Дзяржыншчыны» на працягу апошніх месяцаў.

Да гэтага трэба дадаць, што ў **кожным нумары** друкуюцца аддзелы **«Па Совецкаму Саюзу»** і **«За мяжой»,** праз некалькі нумароў даем фельетон у аддзеле **«Сумныя жарты»** і заметкі **«На бытавыя тэмы».**

Пастаноўка новых пытанняў расшырыла тэматыку нашай газеты, зрабіла яе больш цікавай чытачу. У нас цяпер не знойдзецца такіх нумароў, у якіх усе чатыры паласы былі-б запоўнены трыма-чатырма падборкамі.

Нас запытаюць: як-жа вы ва ўмовах раённай газеты спраўляецеся ўзнімаць столькі пытанняў? Зразумела, рабіць газету з рознастайнай тэматыкай значна цяжэй, чым выпусціць нумар, цалкам прысвечаны аднаму кампанейскаму пытанню. Але наш вопыт гаворыць аб тым, што **расшырыць тэматыку мае магчымасць кожная раённая газета.**

У рэдакцыі «Ўдарніка Дзяржыншчыны» апрача рэдактара і намесніка працуюць пяць работнікаў. Таварышы толькі нядаўна прышлі ў газету з калгасаў і працуюць у газеце ад паўтара года да васьмі месяцаў. Спецыяльнай газетнай падрыхтоўкі не маюць. **Але ўсе яны старанна працуюць над сабой.** Чытаюць мастацкую літаратуру. Кожны работнік рэдакцыі за месяц прачытвае не менш трох кніг—навінак мастацкай літаратуры. Некаторыя творы прачытваем і абмяркоўваем усім рэдакцыйным калектывам («Я люблю»—Аўдзеенка і інш.).

Рэдактар і намеснік рэдактара вучаць работнікаў, як правільна пабудаваць заметку, напісаць фельетон, карэспандэнцыю. Пасля рэдактарскага прагляду матэрыялу кожны работнік рэдакцыі атрымлівае ўказанні не толькі па прынцыповых палажэннях артыкула, але і па асобных недахопах стылю.

І ўсё-ж мы лічым, што пастаноўка вучобы работнікаў нашай рэдакцыі знаходзіцца яшчэ не на патрэбнай вышыні. Многае нам яшчэ патрэбна зрабіць. Аднаго таго, што таварышы працуюць кожны асобна над сабой, яшчэ мала, і зараз мы пачынаем рэгулярна праводзіць заняткі з усім рэдакцыйным калектывам. Вучоба работнікаў рэдакцыі, узняцце іх палітычнага, агульнаасветнага і культурнага ўзроўню — гэта галоўнае, што абумоўлівае поспех барацьбы за палітычна завостраную і культурную газету.

# ГАЗЕТА БРЫГАДЫ Тараса ГАРАЯ

★ ★ ★ Ю. БЕЛЬКО. ★ ★ ★

Хто не ведае ў нас пра брыгаду тав. **Гарая** з калгаса **«Савецкая Беларусь»,** Рэчыцкага раёна, пра брыгаду ініцыятара рэспубліканскага спаборніцтва калгасных брыгад, заваяваўшую перамогу ў гэтым спаборніцтве! Імя Тараса Гарая стала адным з найбольш папулярных імён знатных людзей нашай рэспублікі.

У брыгадзе т. Гарая ў часе веснавой сяўбы рэгулярна выходзіла штодзенная насценгазета **«За рэкордны ўраджай».** Варта прагледзець веснавыя нумары гэтай насценгазеты, як перад вачыма, як у люстры, устаюць баявыя дні барацьбы брыгады за першынства. Але камплект газеты «За рэкордны ўраджай» не бесстаронні летапіс падзей, якія адбываліся ў брыгадзе. Насценгазета была **арганізатарам** і **непасрэдным удзельнікам** барацьбы брыгады за першынства ў рэспубліцы.

Вось што заявіў нядаўна Тарас Усцінавіч:

— Наша брыгада не змагла-б заваяваць рэспубліканскае першынства, калі-б у нас не было баявой брыгаднай насценгазеты.

Так высока ацэньвае работу брыгаднай насценгазеты лепшы калгасны брыгадзір Беларусі. Гэта высокая ацэнка ў поўнай меры заслужана насценгазетай.

Вернемся да першых дзён веснавой сяўбы. Тады ў брыгадзе т. Гарая вышлі першыя нумары насценгазеты. Насценгазета зацікавіла калгаснікаў не толькі сваёй брыгады, але і ўсяго калгаса.



За рэкордны ўраджай

Адзін з нумароў насценнай газеты брыгады тав. ГАРАЯ.



Ілюстраваны нумар насценнай газеты калгаснай брыгады тав. Гарая.

Быў такі выпадак. Калгаснікі суседняй брыгады т. **Блішча,** убачыўшы вялікую дзейснасць насценгазеты «За рэкордны ўраджай», прышлі прама к старшыні Засянскага сельсовета тав. Хвашчанка і катэгарычна патрабавалі, каб і ў іх брыгадзе арганізавалі насценгазету.

— А то добрае спаборніцтва выходзіць,—гаварылі калгаснікі,—у брыгадзе Гарая газета вунь якія справы робіць. Зразумела, Гарай апярэдзіць нашу брыгаду.

Насценгазеты былі створаны і ў двух астатніх брыгадах калгаса.

Перад намі 24 нумары насценгазеты «За рэкордны ўраджай», выпушчаныя ў часе веснавой сяўбы. Насценгазета за час сяўбы не зрабіла ні аднаго прагулу. Больш таго, быў час, калі выходзілі два нумары ў дзень.

Адна з лепшых і дзейсных якасцей насценгазеты «За рэкордны ўраджай» — гэта яе сапраўдная аператыўнасць. Насценгазета чула і быстра рэагуе на кожную важную падзею ў брыгадзе. Ні адзін агрэх, ні адно спазненне калгасніка на работу, таксама як і ні адзін факт узорнай работы не астаюцца незаўважанымі насценгазетай.

У самы ранні час, калі ледзь ружавее на ўсходзе золак, калгаснікі перад выхадам на работу ўжо чытаюць свежы нумар насценгазеты. Не пытаючыся ў брыгадзіра, яны з газеты ведаюць, што


рэкордны ўраджай

20-ты нумар брыгаднай насценгазеты калгаса «Совецкая Беларусь», Рэчыцкага раёна.

праз пяць дзён у № 6 насценгазеты чытаем такую заметку.

**«Лепш на гадзіну раней, чым на хвіліну пазней» — кажа Ярац Дзям'ян, аб якім мы пісалі ў першым нумары. Цяпер Дзям'ян на работу выязджае першым. Так дапамагла наша газета».**

Але калі Дзям'ян адразу змяніў свае адносіны да работы, то Пятро Ляшчынскі ўсё аставаўся «пазняком». Тады насценгазета скарыстоўвае апошні, самы моцны сродак уздзеяння—заносіць Пятра на чорную дошку. А яшчэ праз некалькі нумароў чытаем, што і Пятро перастаў быць «пазняком».

«Пазнякі!»—гэта трапнае народнае слова, ужытае насценгазетай, набыло ў калгасе новы сэнс. Калі раней пазнякамі называлі гасцей, што спазніліся на вяселле, то цяпер гэтым словам клічуць нядбайнікаў, зрыўшчыкаў калгаснай работы.

Розныя людзі па-рознаму рэагавалі на крытыку газеты. І, перагортваючы камплект штодзенкі «За рэкордны ўраджай», сустракаем нумар, на якім вялікімі літарамі выведзена: **«Унечарговы выпуск»**. Што-ж здарылася? Скупымі радкамі рэдкалегія растлумачвае, у чым справа:

**«Наша штодзенка паказала лепшых ударнікаў у барацьбе за тэмпы і якасць сяўбы. Але газета выкрыла і рад фактаў злачынных адносін да каня, выявіла рад бракаробаў. Безумоўна, што насценгазета апошнім не спадабалася. Доказам гэтага можа служыць ганебны ўчынак Стрыжака Андрэя, які выканаў гнусны акт, сарваўшы папярэдні нумар насценгазеты».**

Тут-жа змешчана патрабаванне прыцягнуць да суровай адказнасці Стрыжака Андрэя. А заўтра зноў вышаў нумар насценгазеты, і з яшчэ большай сілай абрушваецца насценгазета на лодыраў і бракаробаў.

трэба сёння рабіць: колькі і дзе ўзараць, колькі і чаго пасеяць. З насценгазеты яны даведваюцца і аб тым, як брыгада працавала ўчора, пра перадавых калгаснікаў і пра адстаючых. І на ўсё гэта трацяцца літаральна хвіліны: вядзе калгаснік паіць каня, пакуль конь нап'ецца вады—насценгазета прачытана. Трэба дадаць, што насценгазета «За рэкордны ўраджай» пісалася граматнай простай мовай, чытэльным почаркам. Заметкі ў насценгазеце былі кароткія і ўсяго ў нумары іх змяшчалася не больш пяці.

Перамога сама не прышла ў брыгаду. І калі перагортваеш цяпер нумар за нумарам штодзенку «За рэкордны ўраджай», гэта ўстае з асаблівай сілай, выплываюць яркія вобразы барацьбы лепшай часткі калгаснікаў брыгады Тараса Гарая з адзіночнымі парушальнікамі працоўнай дысцыпліны, з «пазнякамі» і «першымі ззаду», з «адсталымі, якіх б'юць» і «героямі чарапах і галошы». У першым нумары насценгазеты, які вышаў 9 красавіка, ёсць невялікая заметка, якую мы падамо поўнасцю:

**«Пазнякі».**

**«Калгаснікі Ярац Дзям'ян, Ляшчынскі Пятро і Бышык Цярэшка часта позняцца на работу. Яны выконваюць «нормы лодыраў і прагульшчыкаў». У нашай брыгадзе такім месца няма».**

Пад заметкаю нарысавана карыкатура: вялікая галоша і ў ёй сядзіць адзін з «пазнякоў»—Дзям'ян Ярац. Можна сабе ўявіць дзейснасць штодзенкі, калі

Але не многа ў брыгадзе Тараса Гарая гультаёў і нядбайнікаў. Іх—пязначныя адзінкі. Таму большая частка матэрыялаў насценгазеты «За рэкордны ўраджай»—гэта заметкі пра **лепшых людзей брыгады,** пра слаўных ударнікаў і ўдарніц веснавой сяўбы. І многім дзесяткам калгасных насценгазет трэба вучыцца ў насценгазеты брыгады т. Гарая ўменню паказваць лепшых людзей—ударнікаў і ўдарніц.

Паглядзіце, які аўтарытэт дапамагла стварыць насценгазета знатпаму чалавеку брыгады—інспектару якасці **Насці Гарай.**

Лепшая ўдарніца брыгады Насця Гарай не адразу згадзілася быць брыгадным інспектарам якасці.

— Як гэта я буду мужчынам указваць, як трэба араць і сеяць,—адгаварвалася Насця.

Насці патрэбна была дапамога. Трэба было папярэдзіць насмешкі і кпіны з яе з боку пекаторых адсталых калгаснікаў. Трэба было акружыць Насцю ўвагай, клопатамі, стварыць ёй аўтарытэт. Першай за гэту справу ўзялася насценгазета і выканала яе з гонарам.

Вось, напрыклад, заметка з нумара насценгазеты за 13 красавіка:

> **«Стрыжак Максім у пагоні за соткамі забываецца на якасць работы. Гэта заўважыла інспектар якасці тав. Гарай Насця. На зробленую заўвагу Максім адказаў матам. Такія паводзіны Стрыжака Максіма ГАНЬБЯЦЬ БРЫГАДУ (падкрэслена намі.—РЭД.) і зрываюць спаборніцтва».**

Наўрад ці трэба што-небудзь дадаваць да гэтай невялічкай і вострай заметкі.

Абраза лепшай ударніцы Насці Гарай адным членам калектыва ёсць ганьба для ўсяго калектыва—так ставіць пытанне насценгазета. Так яна выхоўвае ва ўсім калектыве пачуццё адказнасці за кожнага свайго члена. Так, улічваючы памылкі аднаго свайго члена, расце і выхоўваецца ўвесь калектыў.

Больш у насценгазеце не сустракаецца матэрыялаў пра дрэнныя адносіны да Насці Гарай. Але насценгазета не забыла пра яе. Некалькі раз на працягу месяца штодзенка варочаецца да Насці Гарай, паказвае яе ўзорную работу, занесіць на чырвоную дошку гонару.

Таксама сістэматычна піша газета пра другіх ударнікаў і ўдарніц брыгады: Дарашкову Полю, Гарыловіч Ганулю, Блішча Івана, Цітаўца Владзіміра і інш. У кожным нумары змяшчаўся аддзельчык пра тых, хто паказаў высокую якасць і не адстаў у тэмпах. Што новы нумар, то новыя прозвішчы перадавікоў.

Насценгазета «За рэкордны ўраджай» выхоўвае калгаснікаў не толькі на прыкладах сапраўды социялістычных адносін да калгаснай работы, да грамадскага дабра. Насценгазета падмячае часта самыя дробныя праяўленні ў асобных калгаснікаў перажыткаў ідыятызма жыцця дарэволюцыйнай вёскі і вядзе з імі барацьбу.

Для прыкладу можна падаць такі факт.

Адным з лепшых ударнікаў у брыгадзе з'яўляецца Захар **Чарняк** — і нормы перавыконвае, і якасць яго работы добрая. Але ў Захара ёсць адна слабасць: любіць лаяцца «матам». І 10 красавіка ў насценгазеце з'яўляецца заметка аб Захару Чарняку. Насценгазета


За рэкордны ўраджай

Нумар насценгазеты брыгады тав. ГАРАЯ, прысвечаны падрыхтоўцы да першамайскіх свят.

адзначае яго добрасумленную ўдарную работу і тут-жа піша, што калгаснік лаяцца не павінен, тым больш перадавы калгаснік.

Неабходна спыніцца на мастацкім афармленні насценгазеты «За рэкордны ўраджай». Гэтаму важнаму пытанню рэдкалегія аддае выключную ўвагу і скарыстоўвае ўсе магчымасці для таго, каб нумар быў прыгожа, па-мастацку аформлен.

Амаль у кожным нумары ёсць карыкатура ці рысунак. Тэмы для іх рэдкалегія бярэ з заметак, якія змяшчаюцца тут-жа. Большасць карыкатур задуманы востра і ныдрэнна выкананы. Карыкатуры і малюнкі расфарбоўваюцца каляровымі карандашамі.

Вось некалькі прыкладаў. Па дарозе едзе фурманка. Жанчына абодвума рукамі ўчапілася за драбіны і цягне калёсы назад. Гэта карыкатура. Фурманка азначае брыгаду, жанчына—калгасніцу Якаўлеву Насцю, якая «адстае ў рабоце і цягне брыгаду назад».

Або такая карыкатура. Полем бяжыць вялізны заяц. Два чалавекі з усіх сіл даганяюць яго. Так раскрытыкаваны: калгаснікі Цітавец Тарас і Ляшчынскі Павел, якія аднойчы кінулі работу і некалькі гадзін ганяліся за зайцам.

Рэдактар насценгазеты т. **Мамчыц К.** мае фотаапарат і робіць здымкі лепшых людзей брыгады, і ілюструе імі насценгазету. Некалькі раз змешчана фото брыгадзіра т. Гарая, Насці Гарай, Дарошкавай Паліны. Ёсць і сюжэтныя здымкі. Напрыклад, «інспектар якасці т. Н. Гарай правярае работу», «Калгаснікі ў вольны час» (гуляюць у японскі більярд), «Брыгадзір і звенявыя падагульняюць дзенную работу». Ёсць групавыя здымкі лепшых калгаснікаў брыгады.

Ва ўсім—у апрацоўцы заметак і ў мастацкім афармленні нумара—відны любоўныя клопаты рэдкалегіі, яе рэдактара т. **Мамчыца** аб тым, каб насценгазета як можна лепш уплывала на калгаснікаў, была больш дзейснай. Трэба сказаць, што намаганні рэдкалегіі, актыва селькораў насценгазеты не дарэмны.

Калгаснікі брыгады Тараса Гарая любяць і паважаюць сваю насценгазету. Слова насценгазеты «За рэкордны ўраджай»—аўтарытэтнае слова. Да яго чула прыслухоўваюцца калгаснікі, кіраўнікі калгаса і брыгады. А гэта галоўнае, чаго павінны жадаць і дабівацца рэдкалегія і селькоры кожнай насценгазеты.



**У часе абедзенага перапынку на заводзе імя Мяснікова. На здымку: чытчык Анхіх чытае камсамольцам і беспартыйнай моладзі даклад тав. Чэмаданава.**

# Крытыкаваць адкрыта, чэсна, да канца

★ ★ ★ **Р. СІМХОВІЧ.** ★ ★ ★

Капітальны і сярэдні рамонт 250 таварных вагонаў — вось вытворчая праграма вагонарамонтнага завода імя Мяснікова на трэці квартал. У ліпені завод павінен быў даць 80 адрамантаваных вагонаў. Аднак, на 25 ліпеня было выпушчана з рамонту толькі 37 вагонаў. Якасць рамонту была дрэнная. Даволі сказаць, што з 37 адрамантаваных вагонаў 36 мелі па 8—12 дэфектаў. За першую дэкаду жніўня замест планавых 26 вагонаў адрамантавалі толькі 17. Такім чынам прарыў на заводзе не ліквідуецца, а паглыбляецца.

На заводзе выходзіць друкаваная шматтыражка **«За здаровы вагон»** (рэдактар т. **Завялевіч).** Ёсць і нізавыя брыгадныя газеты. Што-ж робіць заводскі друк, каб дапамагчы партыйнай арганізацыі, кіраўніцтву завода ліквідаваць прарыў, палепшыць работу завода?

Трэба сказаць, што работнікі заводскага друку і ў першую чаргу рэдакцыя шматтыражкі «За здаровы вагон» не разумеюць таго, што **«недахопы работы транспарта неабходна ўскрываць пры дапамозе смелай і рашучай самакрытыкі. Без крытыкі ісці наперад нельга» (СТАЛІН).** Шматтыражка не мабілізавала нізавыя газеты і рабкораў завода на барацьбу з тымі істотнымі недахопамі і агіднасцямі, якія ёсць на заводзе. Факты недысцыплінаванасці, неарганізаванасці і расхлябанасці ў рабоце сур'ёзна, па-бальшэвіцку не крытыкуюцца.

Нізавыя насценныя газеты на заводзе выходзяць вельмі рэдка. Большасць насценных газет рабкораўскага актыва не маюць. На сігналы друку ніхто не рэагуе.

Вось газета **«За тэмпы і якасць»** брыгады майстра Хваля. Яна некалькі раз сігналізавала аб тым, што ў сталярным цэху працякае дах, заліваецца варштат, матэрыялы і інструменты. Тры разы пісала газета, што фрэзерны варштат, які ёсць у цэху, не выкарыстоўваецца. Сігналы газеты асталіся пустым гукам. Начальнік цэха Позняк і майстар Хваль не рэагуюць на заметкі рабочых.



**Тав. Голуб—рэдактар насценгазеты ўцільцэха завода імя Мяснікова. Адна з лепшых планерыстак завода, зрабіла 32 палёты на планеры. НА ЗДЫМКУ: тав. Голуб за варштатам.**

Многія рабочыя баяцца адкрыта пісаць у газету пра недахопы работы ў цэху. Заметкі падпісваюцца рабкорамі выключна псеўдонімамі. Рабочы **Тумаз** прама заявіў рэдактару газеты:

— Пра майстра Хваля ёсць што напісаць у газету, але я баюся: потым у бараноў рог скруціць, лепш не буду яго крытыкаваць.

Такія факты ёсць не толькі ў сталярным цэху.

— Нашы рабочыя-атапленцы, — гаворыць рабкор тав. **Локец,** — баяцца пісаць у газету.

Боязнь крытыкаваць выклікана тым, што на заводзе было некалькі спроб ганення на рабкораў і рэдактараў. Адзін з рэдактараў т. **Хоміч** расказвае: — Майстар Якутовіч лепшую работу даваў заўсёды свайму брату. Рабочыя былі гэтым абураны. Я, як рэдактар, зрабіў Якутовічу заўвагу. Гэта яму не спадабалася, і зараз, калі я паміма нарада выконваю дадатковую работу, ён заўсёды гэту дадатковую работу выкрэслівае.



Тав. Берковіч Ісак — лепшы ўдарнік завода імя Мяснікова—член менскага гарадскога совета. НА ЗДЫМКУ: тав. Берковіч рамантуе пасажырскі вагон.

У адной з заметак газеты **«За здаровы кузаў»** вагона-рамонтнага цэха пісалася, што рабочы Мазуркевіч зрабіў прагул і падарваў работу па рамонту таварных вагонаў. На гэту заметку ніхто не рэагаваў. Прафорг т. **Лішай** заявіў нам: не было часу займацца заметкай, промфінплан-жа выконваць трэба і сходы праводзіць.

Выходзіла раней газета ў электразварачным цэху. Яна мела актыў рабкораў з васьмі чалавек. Газета выкрывала недахопы работы на паасобных участках, а рэагавання на заметкі не было. Праз некаторы час класава-варожыя элементы спалілі цэхавую газету. І ўся работа занядпала. Рабкоры кінулі пісаць. Шматтыражка «За здаровы вагон» прайшла міма ўсяго гэтага. Яна не палічыла нават патрэбным выступіць на старонках газеты супроць вылазкі класавага ворага. Палітычная блізарукасць газеты прывяла да таго, што на заводзе з 18 існаваўшых нізавых газет фактычна выходзяць 5—7.

Як разумеюць некаторыя нізавыя газеты завода свае задачы па разгортванню самакрытыкі, уцягненню рабкораў у работу газеты? У газеце **«За тэмпы і якасць»** — сталярнага цэха — змешчан «спіс лепшых ударнікаў і адстаючых». У спіс лепшых ударнікаў занесены тыя, **хто** напісаў адну заметку ў газету або выпісаў газету. У спіс адстаючых занесены рабочыя Палонскі, Дашкевіч і іншыя за тое, што яны не далі заметак у насценгазету. Між тым Палонскі і Дашкевіч ударнікі на вытворчасці. Партарганізацыя завода і шматтыражка «За здаровы вагон» прайшлі міма гэтага недапушчальнага скажэння прынцыпаў работы большэвіцкага друку.

Комуністы і комсамольцы не прымаюць ніякага ўдзелу ў рабоце нізавога друку. У стандартным цэху звыш 20 комуністаў і комсамольцаў, але ні адзін з іх не піша ў газету пра недахопы работы цэха.

Дрэнна кіруе заводскім друкам і партком. Нават калі нарада рэдактараў давяла да ведама партыйнага камітэта, што парторгі **Шабалінскі, Руманаў** і **Турэцкі** не кіруюць работай нізавога друку, партыйны камітэт не звярнуў на гэта ніякай увагі.

Дрэннае партыйнае кіраўніцтва заводскім друкам адбілася і на рабоце шматтыражкі «За здаровы вагон». Газета не мае моцнага актыва рабкораў. Рабкоры самі мала пішуць у газету. Рэдактар або яго намеснік пагавораць з рабочымі, са слоў напішуць заметку і падпісваюць іх прозвішчы.

За чэрвень і ліпень вышла 8 нумароў газеты. На старонках гэтых газет мы знаходзім па адной ці дзве заметкі, якія выкрываюць паасобныя недахопы работы на заводзе. Праўда, у нумары ад 22 ліпеня газета сігналізавала аб невыкананні ўказанняў т. **Кагановіча.** Але ні партком, ні адміністрацыя завода не рэагавалі на гэтыя сігналы, а газета не давяла справу да канца. Можна прывесці рад фактаў, калі на сігналы газеты не рэагуюць па месяцу і больш, а партком з гэтым відам зажыму самакрытыкі не вядзе ніякай барацьбы. Так «выконваюць» на заводзе імя Мяснікова ўказанне т. **СТАЛІНА,** што **«крытыка і самакрытыка—ключ, пры дапамозе якога мы ўскрываем і знішчаем недахопы соцыялістычнага будаўніцтва і ідзем наперад. У гэтым сакрэт нашага прагрэсу».**

# Шэфства над транспартам павінна ўзначаліць газета

(АДКРЫТАЕ ПІСЬМО РЭДАКТАРУ ШМАТТЫРАЖКІ «ВАРАШЫЛАВЕЦ»)

**Тав. Фелер!**



**Рамонт таварнага вагона на менскім вагона-рамонтным заводзе імя Мяснікова.**

9 ліпеня на сходзе нашай дэпоўскай партыйнай арганізацыі па пытанню барацьбы з аварыямі і аварыйшчыкамі прысутнічалі прадстаўнікі і вашага завода. Яны па-бальшэвіцку крытыкавалі нашу работу і асабліва работу машыністаў-аварыйшчыкаў. Прадстаўнікі вашага завода ўзялі рад канкрэтных абавязацельстваў: дапамагчы наладзіць работу дэпо, перадаць брыгадам вопыт сваёй работы, узялі шэфства над паравозамі Нв — 15, СУ — 20094, Нв — 65, Щ — 657 і Ов — 4022 з тым, каб дапамагчы брыгадам гэтых паравозаў выйсці ў перадавыя.

Але... Прадстаўнікі завода пабывалі ў дэпо, пагаварылі са сваімі падшэфнымі брыгадамі і на гэтым уся шэфская работа скончылася. Заводская газета **«Варашылавец»** зусім упусціла тое, што завод шэфствуе над транспартам.

Наш любімы правадыр т. **Сталін** на прыёме чыгуначнікаў у Крэмлі, даўшы ацэнку работы транспарта за апошні час, паставіў перад ім канкрэтную задачу — грузіць і вазіць 75 — 80 тысяч вагонаў у суткі. Гэта задача да многага абавязвае і работнікаў транспартнага фронту і друк шэфствуючых арганізацый, якія павінны адчуваць адказнасць за работу транспарта і практычна дапамагаць у рабоце па яго ўмацаванню.

Між тым у шматтыражцы «Варашылавец», якую ты рэдагуеш, нічога няма па пытанню шэфства над транспартам. Газета не мабілізуе рабочых завода імя Варашылава на выкананне ўзятых імі абавязацельстваў.

Чаму-б, тав. Фелер, не звязацца вам з дэпоўскай шматтыражкай, з нізавымі газетамі і рабкорамі дэпо, каб перадаць нам лепшы вопыт друку вашага завода і гэтым самым дапамагчы нам разгарнуць самакрытыку так, як вучыць правадыр партыі тав. Сталін? Чаму-б нам не арганізаваць абменныя паласы аб рабоце лепшых людзей завода і дэпо? Або, скажам, паказаць у вашай газеце тых, хто практычна дапамагае ў рабоце транспарта, лепшы вопыт работы па шэфству над адной з паравозных брыгад.

Тав. Сталін указаў: **«Справа транспарта — справа ўсёй краіны».**

Гэта значыць, што за дрэнную работу нашага дэпо нясе адказнасць і ваш завод, які шэфствуе над дэпо.

Звярачаючыся да цябе, тав. Фелер, з гэтым пісьмом, я хачу завастрыць увагу і другіх рэдактароў фабрычна-заводскіх газет па сістэматычнай дапамозе транспарту, на практычным ажыццяўленні шэфства.

**З тав. прывітаннем**

**Н. Ф. СТРЭЛЬЧАНКА — рэдактар газеты «Чырвоны чыгуначнік» (Менскага паравознага дэпо).**

## ГАЗЕТА У НОВЫМ РАЁНЕ

★ ★ ★

# Для чаго існуе Белпаліграфтрэст?

У сакавіку вышаў першы нумар раённай газеты **«Сталінец»** новаарганізаванага Журавіцкага раёна. Па тэрміну, які прайшоў з таго часу, можна меркаваць, што арганізацыйны перыяд газета перажыла. Але гэта не так.

Рэдакцыя і друкарня і па гэты дзень знаходзіцца ў адным памяшканні. Збіўшыся ў кучу працуюць над матэрыяламі работнікі рэдакцыі, а тут-жа побач грукаціць друкарская машына. Можна ўявіць, як гэта спрыяе якасці работы рэдакцыі.

Некалькі раз я ставіў перад райвыканкомам пытанне аб прадастаўленні рэдакцыі і друкарні больш-менш падыходзячага памяшкання. На ўсе просьбы ў райвыканкоме адказваюць нязменным: «Пачакай, сам бачыш: памяшканняў няма. Не бойся — не забудзем рэдакцыю». Так праходзіць месяц за месяцам. Амаль усе раённыя ўстановы ўжо атрымалі памяшканні, а для важнейшай у раёне ўстановы — рэдакцыі газеты — памяшкання не знаходзіцца.

Штат рэдакцыі не ўкамплектован. Ёсць рэдактар, намеснік, інструктар сельскагаспадарчага аддзела і сакратар. Патрэбен карэктар і інструктар па рабоце з рабселькорамі і пісьмамі. Але мы не можам узяць гэтых надзвычай неабходных работнікаў, бо рэдакцыя не мае сродкаў. Аб гэтым пастараўся Белпаліграфтрэст.

Справа была так. У часе арганізацыі раёна паведамілі, што друкарская машына будзе нам дастаўлена з Заслаўя. Перавозка і ўстаноўка машыны ўскладзены на Белпаліграфтрэст. Рэдакцыі-ж адпушчаны адпаведныя грошы для аплаты гэтай работы. Чакаем месяц, другі — машыны няма. Газету выпускаць трэба. Тады мы ўзяліся за перавозку машыны самі. Перавезлі, устанавілі, затрацілі каля двух тысяч рублёў.

На небасхіле паяўляецца Белпаліграфтрэст. «Як, вы ўжо самі машыну перавезлі? Добра. Нам клопату менш будзе. А грошыкі ўсё-ж ганіце нам. Вам-жа адпушчаны грошы для выплаты Белпаліграфтрэсту за перавозку і ўстаноўку машыны».

Людзі разважалі зусім спакойна, без усякага намеру жартаваць. Зразумела, рэдакцыя наадрэз адмовілася плаціць Белпаліграфтрэсту за работу, якой ён не выканаў. Дый грошы, вызначаныя на перавозку машыны, затрачаны.

На гэтым размова з Белпаліграфтрэстам і скончылася. У трэсце, відаць, рашылі, што лепш дзейнічаць, чым размаўляць. Праз некалькі часу я даведаўся, што з рахунка рэдакцыі па распараджэнню Наркамфіна БССР пераведзена Белпаліграфтрэсту 2.070 руб.

Учынак Белпаліграфтрэста падобен на грабежніцтва сярод белага дня. За такія ўчынкі вінаватых трэба судзіць. Але нам ад гэтага не лягчэй, пакуль суд ды справа—рэдакцыя не мае грошай для выплаты зарплаты ўсяму штату работнікаў рэдакцыі.

З'яўляецца сумненне—у чым-жа функцыі Белпаліграфтрэста? У тым, каб абслугоўваць раённыя газеты, ці ў тым, каб перашкаджаць ім у рабоце? Ужо колькі часу мы хадайнічаем перад Белпаліграфтрэстам аб прысылцы нам шрыфтоў, якіх не хапае. Напрыклад, у нас няма літары «I». Яе хапае толькі на палову паласы. У матэрыялах астатніх паўтара палос прыходзіцца ставіць рускае «и». Вельмі мала загаловачных шрыфтоў. На ўсе нашы просьбы ў трэсце адказваюць:

— Пачакайце, прышлем шрыфты.

Доўга, відаць, давядзецца чакаць. Мы не патрабуем немагчымага, але і на нашы зусім скромныя і законныя просьбы Белпаліграфтрэст не зварачае ніякай увагі.

Для чаго існуе Белпаліграфтрэст? Вось пытанне, якое хвалюе не толькі мяне, але і многіх рэдактароў газет. Пара сур'ёзна заняцца людзьмі, якія кіруюць гэтым трэстам.

**Ф. КУРПЯК — рэдактар Журавіцкай раённай газеты «Сталінец».**

# ПІСЬМЫ У РЭДАКЦЫЮ

## Ад курсаў патрабую большага

Задачы карэннага паляпшэння раённых газет у адпаведнасці з магутным палітычным і культурным ростам калгаснага сялянства патрабуюць павышэння ведаў газетных работнікаў, у першую чаргу рэдактароў газет. Выкананню гэтай задачы ў вялікай ступені павінна спрыяць скліканне пры КІЖ імя Кірава двухмесячных курсаў перападрыхтоўкі рэдактароў і намеснікаў рэдактароў раённых газет. Тым з большай сілай трэба сёння крытыкаваць недахопы, якія ёсць у рабоце курсаў.

Курсы пачалі работу 1 жніўня. Займаюцца **42 курсанты.** Ужо прайшло 20 вучэбных дзён. Трэба прама сказаць, што за гэтыя 20 дзён вучобы мы, курсанты, маглі-б атрымаць значна больш, чым атрымалі.

Галоўнае зло ў рабоце курсаў — **арганізацыйныя непаладкі,** якія, відаць, прынялі хранічны характар. Вучэбны дзень курсаў толькі шэсць гадзін, але і гэтыя шэсць гадзін часта не скарыстоўваюцца. Часта зрываюцца лекцыі з прычыны спазнення ці няяўкі выкладчыкаў. Асабліва гэта датычыць выкладчыкаў газетных дысцыплін.

Курсанты не разбіты на групы па адукацыі. У адной групе займаюцца рэдактары, скончыўшыя КІЖ, маючыя вялікі стаж газетнай работы, і маладыя газетныя работнікі.

Не зусім прадумана вучэбная праграма курсаў. З першых дзён заняткаў некалькі гадзін было адведзена эканомгеаграфіі СССР. Няма чаго і гаварыць, наколькі гэта неабходная дысцыпліна. Нам, газетным работнікам, кожны дзень прыходзіцца сустракацца з дзесяткамі паведамленняў аб новых пабудовах у СССР, аб экспедыцыях, адкрыццях новых залежаў і т. д. А веды-ж нашы па эканомгеаграфіі зусім нязначныя. Гэтага не ўлічыла кіраўніцтва курсамі, бо лекцыі па эканомгеаграфіі адразу-ж спыніліся.

Колькасць вучэбных гадзін па вывучэнню шрыфтоў, па-мойму, трэба скараціць. А то нам чытаюць лекцыі аб назвах рознага выгляду шрыфтоў, якіх няма ў большасці друкарань раённых газет. Замест гэтага трэба пашырыць праграму па дысцыпліне «Мова газеты». Вось у гэтай галіне кожнаму з нас неабходна грунтоўна падвучыцца. Трэба таксама навучыць рэдактароў як пісаць нарысы, фельетоны і інш.

Нарэшце, апошняя заўвага. Пры КІЖ ёсць габінет друку. Аб ім ніхто не гаворыць курсантам, і курсанты ў ім не бываюць, бо габінет адчынены толькі ў часе лекцый, калі курсанты заняты.

**Курсант Ю. СНЫТКО.**

## Павысіць якасць выкладання

20 дзён працуюць ужо курсы рэдактароў газет пры КІЖ'ы БССР. За 20 дзён курсанты не даведаліся нават, хто загадчык курсаў. Ужо гэты адзін факт гаворыць аб дрэннай арганізацыі курсаў. Спынюся на якасці выкладання.

Вывучаем **эканомпалітыку.** Дысцыпліна вельмі важная. Але выкладанне гэтай дысцыпліны пастаўлена так дрэнна, што карысці курсанты атрымліваюць вельмі мала. Лекцыі па эканомпалітыцы пабудаваны выключна на лічбах, прычым лічбы падаюцца без іх глыбокага аналізу. Курсанты пасрісвалі на дзесяці лекцыях Матусевіча па два сшыткі і ўсё аднымі лічбамі.

Дрэнна пастаўлена выкладанне газетных дысцыплін. За 20 дзён вучобы мы праслухалі толькі дзве лекцыі па газетных дысцыплінах, астатнія **сарваліся** з-за няяўкі лектароў.

**Няма наглядных дапаможнікаў.** Возьмем хоць-бы газетную вітрыну. У КІЖ'ы ёсць газетная вітрына, але матэрыялы ў ёй выстаўлены старыя. Ці нельга было к курсам падабраць для вітрыны новыя матэрыялы? Гэта значна дапамагло-б пры праходжанні газетных дысцыплін.

Няўдалы метад выкладання і дысцыпліны **«афармленне газеты».** Нам тлумачаць назвы шрыфтоў, спосабы вёрсткі і т. д. Усё гэта робіцца ў аўдыторыі. Між тым КІЖ мае ўласную друкарню, і нічога не складае павесці курсантаў ў друкарню і наладзіць там практычныя заняткі.

*Крытычныя заметкі*

# МАЙСТРЫ ТАННАЙ СЛАВЫ

Начальнік аршанскага райдораддзела **Есіповіч** асаблівых шансаў быць заўважаным не меў. Планы дарожнага будаўніцтва ў раёне выконваліся далёка не бліскуча. А Есіповіч жадаў славы... Такой славы, каб загаварылі ўсе, каб віншавалі, каб у газетах пісалі і партрэты друкавалі.

Але віншаванняў не было, а газеты часта абыходзілі Есіповіча.

Тады дасціпны начальнік дораддзела вырашыў, што спадзявацца на самацёк у даным выпадку не трэба і што славу «трэба арганізаваць».

Далей падзеі развіваліся такім чынам. З бюджэта райдораддзела выдзяляецца некалькі соценъ рублёў і рыхтуецца аднадзенная газета—орган райдораддзела. Дасталі паперу, заключылі дагавор з друкарняй. Тут-жа, да рэчы, пад рукі падвярнуліся і «рэдактары»—адбываўшыя практыку ў газеце «Ленінскі прызыў» студэнты КІЖ БССР комуніст Букацэвіч і комсамолец Внукаў.

Галоўныя труднасці былі пераможаны. Далейшыя затрудненні на шляху да славы вырашаліся ў рабочым, так сказаць, парадку. Букацэвіч і Внукаў з поўслова зразумелі жаданне Есіповіча і насталіся апраўдаць атрыманую ад яго ўзнагароду.

Спешна выклікалі фатографа і зрабілі некалькі здымкаў, якія павінны адлюстроўваць поспехі аршанскага дораддзела: партрэт Есіповіча, а таксама групавы здымак — «Есіповіч сярод калгаснікаў-ударнікаў». Зрабілі клішэ.

Для паўнаты славы Есіповічу спатрэбілася прывітанне старшыні рэспубліканскага штаба дорбудаўніцтва т. **Саакяна** і начальніка Галоўдартранса БССР тав. **Іванова.** Затрымліваецца выпуск нумара. Внукаў едзе ў Менск «арганізоўваць прывітанне». Зразумела, ніякага прывітання Внукаў у Менску не атрымаў. Тады людзі пайшлі на просты падлог. Прывітанне напісалі ў дораддзеле і падпісалі пад ім прозвішчы тт. Саакяна і Іванова.

І вось нумар газеты **«За культурную дарогу»** —органа райдораддзела і доршатаба РВК — 11 ліпеня вышаў у свет.

На першай старонцы змешчан артыкул начальніка райдоршатаба **Вараб'ёва** «Рапарт перамог». Гэты артыкул — узор самага бессаромнага самахвальства. Пачынаецца артыкул запэўненнем у тым, што «Большэвікі Аршаншчыны сваёй работай і барацьбой з класавым ворагам увесь час займаюць перадавое месца ў БССР» і канчаецца балбатнёй аб «велізарных перамогах» райдоршатаба («штаб на месцы — у габінетах мала засядаў, а на дарогах...») у галіне дарожнага будаўніцтва.

На другой старонцы побач з апісанымі вышэй фатаграфіямі надрукован артыкул Есіповіча, які адрозніваецца ад артыкула Вараб'ёва тым, што ў ім на ўсе лады расхвальваецца работа дораддзела. Побач у так званым рапарце тт. Саакяну і Іванову, падпісаным Вараб'ёвым і Есіповічам, пяецца зноў гімн, але ўжо і райдоршатабу і райдораддзелу адначасова.

Але цэнтральным месцам нумара з'яўляецца «прывітанне тт. Саакяна і Іванова». Падлог зроблен, відавочна, на скорую руку, бо фальшывасць «прывітання» кідаецца ў вочы з першага погляду. Нават подпіс сфабрыкован з памылкамі: **«Нач. Дор. Штаба ЦВК БССР — Саакян».** Як вядома, рэспубліканскі штаб па дорбудаўніцтву знаходзіцца не пры ЦВК, а пры **ЦК КП(б)Б і СНК БССР,** а прозвішча яго старшыні **(старшыні,** а не начальніка) т. **Саак'ян.**

Якое-ж сапраўднае становішча выканання плана дарожнага будаўніцтва па Аршанскаму раёну? Вось адпаведныя лічбы: план вывазкі гравія выканан на 82 проц., вывазкі лесу — на 94 проц., земляных работ — на 76 проц., план на гравійных дарогах — на 60 проц., пабудовы мастоў — на 83 проц.

Толькі што праведзеным Галоўдартрансам абследваннем работы аршанскага райдораддзела выкрыта сістэма очка-

ўціражельства, якою карысталіся работнікі райдораддзела. Райдораддзел пасылаў у Галоўдартранс яўна перапавялічаныя весткі аб ходзе дарожнага будаўніцтва. Абследваннем выкрыты факты неарганізаванасці дарожных работ у раёне, факты ігнаравання якасці будаўніцтва і інш.

У святле гэтых фактаў здаецца асабліва дзікай уся гэта гісторыя з «аднадзеннай газэтай», гісторыя наскрозь крымінальнага парадку.

Галоўдартранс зараз прыцягвае Есіповіча да адказнасці за очкаўціражельства. Але як быць з «комуністам» Буцацэвічам і «комсамольцам» Внукавым — фактычнымі арганізатарамі, «рэдактарамі» ўсёй гэтай мешаніны самахвальства, хлусні і фальшывак, названай газетай «За культурную дарогу»? Аб гэтым павінны сказаць сваё слова партыйная і комсамольская арганізацыі КІЖ імя Кірава.

**г. Орша.** **В. К.**

---

# „РАЗУДАЛЫЯ ПЕСНЯРЫ" З „КОМУНАРА ЗАСЛАЎШЧЫНЫ"

Вельмі добра, калі рэдакцыя раённай газеты прабуе ажывіць газетную паласу, калі ў газеце з'яўляецца жывая карэспандэнцыя, нарыс і т. д. Але вельмі дрэнна, калі карэспандэнцыя, нарыс ці фельетон пішуцца такой мовай, як у **«Комунары Заслаўшчыны»**.




23 жніўня ў «Комунары Заслаўшчыны» надрукован нарыс **Гр. Лапіцкага** «На ліквідацыю прарыва».

**«Патухаў жаркі дзень. Заціхалі на полі ПЕСНІ РАЗУДАЛЫХ КАЛГАСНЫХ ЖНЯЯРАК і касцоў. Сонца гасіла свае праменні. Там, за калгасным узгоркам, каля пагранічных слупоў, укутаўшыся ў шэрыя плёнкі туману, ЯНА ўхадзіла на адпачынак. ДАЛЕЙ НЕ РУХАЛАСЯ З МЕСЦА. (Падкрэслена тут і ў далейшым намі. — РЭД. «БОЛЬШ. ДРУК»).**

Так пачынаецца нарыс. Хто гэта яна, якая «ўходзіла на адпачынак»? Хто гэта «далей не рухалася з месца»? Калі гэта ўсё адносіцца да сонца, то трэба было пісаць «яно», а не «яна». Трэба-ж захоўваць хоць-бы самыя элементарныя правілы граматыкі. І потым, што гэта за «разудалыя жняяркі»?

А вось як у нарысе падаецца гутарка старшыні калгаса з брыгадзірам:

**«Ураджай у гэтым годзе сапраўды большэвіцкі. Глянь вунь мора пшаніцы, ячменю ЛІМАН ЧАС НА ЧАС САМІ НА ЖНЯЯРКУ ЛЕЗУЦЬ І РАПТАМ СПАХВАЦІЎШЫСЯ, ЁН У МЯНЕ СПЫТАЎ, ЯК У ТВАЁЙ БРЫГАДЗЕ?».**

Што тут да чаго, — напэўна не разбярэ зараз ні аўтар нарыса, ні рэдактар заслаўскай газеты.

Больш за ўсё захапілі і аўтара нарыса, і рэдакцыю «Комунара Заслаўшчыны» «разудалыя» песні калгаснікаў. І таму ў нарысе праз кожныя 10—15 радкоў паўтараецца:

**«Толькі РАЗУДАЛАЯ ПЕСНЯ калгасных трактарыстаў парушалі цемру, цішыню ночы».**

**«Трактарыст тав. Закаблук узначаліў РАЗУДАЛУЮ ПЕСНЮ».**

**«Моладзь зноў запявае ЗАЛІХВАЦКУЮ ПЕСНЮ».**

Працаваць трэба над матэрыялам, таварышы з «Комунара Заслаўшчыны», працаваць сур'ёзна і ўдумліва!

**А. ЦЫПІНА.**

# ПРЫКЛАД БЕЗАДКАЗНАЙ ВЕРСТКІ

Уварвіцкая газета **«Калектывіст»** па свайму афармленню нічым асабліва не вылучаецца сярод многіх раённых газет БССР. Той-жа самы разнабой у шрыфтах загалоўкаў, тыя-ж нудныя шэрыя старонкі без адзінага малюнка і фото.

Але нядаўна ў газеце з'явілася паласа, якая па свайму афармленню пакінула далёка ззаду ўсе дапускаемыя раней спосабы і прыёмы размеркавання матэрыялу ў раённай газеце і на якасці якой ніяк нельга не спыніцца. Гутарка ідзе аб 2-й паласе газеты за 25 жніўня.

Асноўны матэрыял гэтай старонкі — заключнае пасяджэнне VII кангрэса Комінтэрна. У якасці падвёрсткі даюцца тры невялічкія заметкі.

Рэдакцыя пастаралася размясціць гэты матэрыял так, што ў паласе атрымаўся сапраўдны вінігрэт. Зверху на 5 калонак ідзе аншлаг «Закрыўся VII кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыянала». За аншлагам тэкст з заключнага пасяджэння кангрэса. І ў кожнай калонцы ў якасці арыгінальнай «канцоўкі»—падвёрстваецца адна з заметак, якая абсалютна нічым не звязана з матэрыяламі кангрэса. Дзіўна тое, што гэтыя заметкі нават не адбіты і неадздзелены, як звычайна прынята ў такіх выпадках, вусікамі ці лінейкамі.

Неспакушаны ў мудрагельствах такой вёрсткі радавы чытач раённай газеты—калгаснік будзе чытаць:

**«Ад імя прэзідыума кангрэса тав. Эрколі прапануе выбраць...»**

**«Выгады пушчэння жніўя».**

Спадзяемся, што, не гледзячы на такую няграматную развёрстку матэрыялу, чытач усё-ж пачне шукаць працяг падалай намі вытрымкі ў 3-й калонцы. Аднак, гэта ніяк не змяншае віны **работнікаў** рэдакцыі, якія так неахайна і безадказна адносяцца да афармлення матэрыялу ў паласе.

Мы ведаем асноўнае правіла вёрсткі большэвіцкай газеты, якое заключаецца ў тым, што тэхнічнае афармленне газеты павінна дапамагаць чытачу ўспрымаць яе змест.

У данай паласе тэхніка развёрсткі матэрыялу такая, што афармленне не дапамагае, а наадварот, блытае чытача.

**А. МАТУСЕВІЧ.**

# НЯГРАМАТНЫЯ ПЕРАКЛАДЧЫКІ

Азнаёмімся з нумарам газеты «Чырвоны сцяг» за 1 жніўня. На першай старонцы нумара змешчан артыкул, присланы ТАСС «Грудью защитим нашу родину». Але што атрымалася пры перакладзе гэтага артыкула ў рэдакцыі халопеніцкай газеты? Загаловак перакладзен так: «Грудзьдзю **забаронім** нашу радзіму». Кожнаму зразумела, што слова «забаронім» па-руску азначае — «запретим», як зразумелы і контррэвалюцыйны сэнс гэтага перакладу загалоўка ў газеце «Чырвоны сцяг». Гэта-ж паўтараецца ўвесь час і ў тэксце артыкула.

Чацверты абзац памянёнага артыкула пачынаецца словамі: «На месте **нищей,** варварски отсталой страны выросла страна невиданной мощи». У газеце «Чырвоны сцяг» гэты сказ перакладзен так: «На месцы **ранейшай** варварскай, адсталай краіны — вырасла краіна нявіданнай **мошчы».** Далей у арыгінале: **«И что удивительного,** что у нас много большевиков партийных и непартийных, преданных своей стране всей **страстью своей крови** и готовых пожертвовать ради ее могущества и счастья всем и самым дорогим — жизнью». У перакладзе-ж халопеніцкага рэдактара гэты сказ выглядае так: **«І што здзіўленага,** што ў нас многа большэвікоў партыйных і не партыйных, прэданых сваёй краіне **усёй страсцю і сваёй крывёй** і гатовых **пажэртваваць** радзі яе магутнасці і шчасця ўсім і самым дарагім — жыццём».

Халопеніцкая газета выходзіць першы год, але гэта не дае ніякага права намесніку яе рэдактара **К. Каваленка,** які падпісаў памянёны нумар, выпускаць **у** свет заведамы брак.

**м. Дрыса.** **В. ЗЕЛЯНЬКЕВІЧ.**

# ВІТРЫНА БРАКУ

## «ЗНІШЧЫЦЬ БЕЗНАГЛЯДНАСЦЬ БАЦЬКОЎ К ДЗЕЦЯМ»

заклікае «Прымежны калгаснік» у нумары ад 21 жніўня.

Хто тут безнаглядны — бацькі ці дзеці? — цяжка зразумець з гэтага загалоўка. Адно толькі зразумела, што безнаглядным з'яўляюцца старонкі ўшацкай газеты, у якой друкуюцца такія нятраматныя загалоўкі.



«Безнаглядныя бацькі» ва ўяўленні работнікаў ушацкай газеты.

## «ЗАМЕСТ ЛЯЧЭННЯ... ТРАХАМІЧНЫЯ ПАМЯТКІ»

— такі загаловак дала бягомльская газета «Калгасны змагар» (№ 47) над заметкай аб рабоце мсціжскай амбулаторыі, дзе замест рэцэптаў хворым выдаюць памяткі па барацьбе з трахомай.

Гэтыя памяткі газета называе то трахамічнымі, то трахомнымі. І ў тым, і ў другім выпадку атрымліваецца дзікая бязглуздзіца нібы памяткі хворыя трахомай.

У гэтым-жа нумары бягомльскай газеты надрукован яшчэ адзін, не менш бязглузды загаловак:

## «ДАКУЛЬ-ЖА БУДЗЕ ЗРЫВАЦЦА ДАБАЎКА ГАЗЕТ?»

Мы пытаемся ў рэдактара «Калгаснага змагара» тав. **Пазына** — дакуль будуць у рэдакцыі такія безадказныя адносіны да газетнай паласы?

## «НАСЦЕНГАЗЕТА ВЫШЛА З МОДЫ»

— Гэты загаловак у газеце **«Комунар Заслаўшчыны»** (№ 77) над заметкай аб тым, што ў калгасе «Чырвоны дазор» спыніўся выхад насценгазеты.

Параім рэдактару заслаўскай газеты т. **Пінскаму** не ўжываць, ці, гаворачы мовай «Комунара Заслаўшчыны», «вывесці з моды» такія загалоўкі.

## «У БАРАЦЬБЕ ЗА ВЫКАНАННЕ КОНКУРСА».

— Бязглуздасць гэтага загалоўка, надрукаванага ў № 86 газеты «Калектывіст Расоншчыны» ад 24 жніўня, адчувае кожны, апрача самога рэдактара гэтай газеты.




Тав. Гурчонак не разумее, што выканаць можна толькі ўмовы конкурса, а не конкурс. Не разумее тав. Гурчонак і таго, што такі загаловак, як

## «ЗНІШЧЫЦЬ МОКРЫЯ НАСТРОІ»,

надрукаваны ў гэтым-жа нумары расонскай газеты, можа толькі насмяшыць чытача.

—□□□□—

